„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад, гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб'яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.

„Беларускі настаўнік” выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Ад рэдактара

Жывем у цікавы час. Гэта, канешне, эўфемізм. Міграцыйны і гуманітарны крызіс на беларуска-польскай мяжы, жорсткая антыбеларуская контррэвалюцыя Лукашэнкі, чарговая хваля эпідэміі каранавіруса, глабальнае пацяпленне. Ужо толькі гэтага дастаткова, каб з'явіліся сумненні, што адказаць сабе на фундаментальнае пытанне «як жыць». У дарослых. А што казаць пра моладзь, якая перажывае ўсё значна мацней за нас, старэйшых? Тое, як маладыя людзі пройдуць гэты цяжкі этап іх жыцця, у вялікай ступені залежыць ад таго, якіх настаўнікаў спаткаюць на сваёй дарозе. Спачуваю тым, чые настаўнікі не схочуць з імі гаварыць пра складаныя пытанні, бо яны «незразумелыя для маладых», бо «палітычныя» або няма іх у школьных праграмах.

Моладзь хутчэй за нас даведваецца пра тое, што адбываецца ў свеце. Сёння няма ніякіх праблем у здабычы інфармацыі. А ў яе аналізе, адсейванні зерня ад паловы, праўды ад фейкаў. Каб гэтаму навучыць дзяцей, трэба спачатку навучыцца нам самім, дарослым. «Менавіта з гэтай мэтай Таварыства беларускай школы і сайт Nastaunik.info вядуць праграму медыяадукацыі для настаўнікаў», — піша ў нумары старшыня ТБШ Тамара Мацкевіч. Варта пазнаёміцца з напрацоўкамі калег з Беларусі, каб не ўзломваць адчыненых дзвярэй.

Паважаныя сябры настаўнікі, не заўсёды маўчанне гэта золата. Ёсць такія сітуацыі, калі трэба выразна заняць пазіцыю, выказаць свае погляды, бараніць сваё. Нават калі нас за гэта не пахваляць. Такім прынцыпам кіруецца ў жыцці Тамара Русачык, аўтарка шэрагу падручнікаў па навучанні беларускай мове ў польскіх школах. «Я не была звычайнай настаўніцай», — кажа сённяшняя пенсіянерка з Бельска, якая ўсё пры справе, усё ў віры грамадскай актыўнасці.

Не ведаю, ці мастацтва выратуе свет, але можа быць добрым лякарствам хоць на нейкія яго хваробы. Я перакананы, што калі вучням прапанаваць цікавыя формы мастацкай актыўнасці, яны не застануцца абыякавымі. У нумары друкуем сцэнарый спектакля «Беласнежка», пастаўленага ўдзельнікамі гуртка «Гульня ў тэатр», які дзейнічае пры Аб'яднанні АБ-БА. Лінк да гэтай пастаноўкі можа падказаць пэўныя развязкі, але кожны на аснове гэтага сцэнарыя можа зрабіць сваю арыгінальную пастаноўку. Гарантавана не толькі добрая гульня, але і адукацыйна-выхаваўчы эфект!

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Я не была звычайнай настаўніцай



Мікола ВАЎРАНЮК



Фота Ізабэлы Плуг

**Тамара Русачык** ніякім чынам не падыходзіць да стэрэатыпу пенсіянеркі ў тапачках, вязанай камізэльцы, з пруткамі ў руках і ўключаным на серыялы тэлевізарам у куце парадната пакоя невялікай бюджэтнай кватэры. Яна ўвесь час пры справе.

— Чаму ж ты не прыгадаў пра нашу сённяшнюю сустрэчу ўчора вечарам, — лагодна папракнула яна мяне, калі я патэлефанаваў з паркоўкі пад яе блокам у Бельску ў 10 раніцы. — Я зусім забыла, бо ўсю ноч пісала лісты да спонсараў у сувязі з дзесяцігоддзем нашага Універсітэта трэцяга веку. Нічога, праз дзесяць хвілін буду гатовая.

**— Пані Тамара, колькі падручнікаў па беларускай мове Вы напісалі?**

— Ой, я дакладна і не памятаю. «Васількі» для ІІ класа пачатковых школ, «Зараначка» для трэцяга, «Вяснянка» для пятага, камплект падручнікаў для гімназіі: «Са спадчынай у будучыню», «Шлях да сябе», «Людзьмі звацца» і «Хрэстаматыя». Здаецца, усе пералічыла. З'яўляюся таксама аўтарам школьных праграм навучання.

**— Чаму Вы ўзяліся за гэтую нялёгкую справу?**

— Калі я стала працаваць у школе, мы карысталіся старымі падручнікамі, яшчэ 60-ых гадоў. Яны былі ўжо моцна паншчаныя і не адпавядалі патрабаванням настаўнікаў і вучняў. Ды і тых кніжак было замала. Каб неяк выправіць становішча я, ужо як метадычны дарадчык для настаўнікаў беларускай мовы, паехала ў Варшаву, у Школьнае і педагагічнае выдавецтва (WSiP) ды Інстытут школьных праграм. А там мне сказалі: *Sama pani napisze*. То што было рабіць, села і напісала.

— **Каб жа гэта было так проста.**

— Проста не было, гэта праўда. Але я жыла беларускім школьніцтвам поўнасцю. Мае калегі настаўнікі, напрыклад, з Мінска цягалі золата, а я падручнікі, дапаможнікі ды іншыя кнігі. Мела не толькі школьную практыку, але і добрую тэарэтычную базу. Мне не цяжка было падабраць адпаведныя тэксты, а заданні да іх складала сама. Я перш-наперш ставіла сабе за мэту выхаваць грамадзяніна свядомага сваіх беларускіх каранёў. Лічу, што ў мяне гэта вельмі добра атрымлівалася. Дарэчы, мае падручнікі перажылі і фармальную эстэтычную эвалюцыю. Калі «Васількі» былі яшчэ чорна-белыя, то ўжо выдадзеныя «Ортдрукам» падручнікі для гімназій былі як цацачкі. Не толькі вучылі, але і радавалі вока. Рэдактарка Аня Радзюкевіч шкадавала, што такіх падручнікаў не было, калі яна хадзіла ў школу. «Са спадчынай у будучыню» з ілюстрацыямі Ігара Гардзіёнка атрымаў дыплом «Залаты дубль» у конкурсе «Мастак і кніга» ў 2001 годзе ў Мінску. А Генадзь Пяцігор з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь расказваў мне, што на адной нарадзе Аляксандр Лукашэнка ўзяў у рукі гэты мой падручнік і сказаў: *Вось якія павінны быць падручнікі. Такія апрацоўвайце!*

— **Пані Тамара, а як Вы сталі настаўніцай беларускай мовы?**

— Я змалку любіла беларускую мову. Можа таму, што выхавалася ў сялянскай сям'і ў Кашалях. Пачатковую школу закончыла па-суседску, у Орлі. Затым пайшла ў Беларускі ліцэй у Бельску. Дырэктарам быў там тады Мікола Гайдук. Памятаю, што калі была ў першым класе, прымала ўдзел у мастацкай частцы на з'ездзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Дэкламавала пачатак «Новай зямлі»: *Мой родны кут, як ты мне мілы...*

Курсы настаўнікаў беларускай мовы ў Мінску.



Прымалі нас, маладых, вельмі добра, запрасілі на абед у рэстаран. Ужо тады мне вельмі спадабалася ў БГКТ, пачула там такую цеплыню і сардэчнасць. У школе таксама мела з каго браць прыклад, бо і мая выхавацелька Зінаіда Красоўская і пазнейшы дырэктар Аляксей Карпюк, які прыйшоў у ліцэй таксама з Орлі два гады пасля мяне, закончылі беларускую філалогію ў Варшаве. І яны мяне падтрымлівалі. А дырэктар яшчэ і цікавіўся маімі поспехамі ў спорце, бо — пахвалюся — я прымала ўдзел у агульнапольскіх спаборніцтвах па кросе на 1200 метраў і апынулася ў першай дзясятцы.

— **Дзе трэніраваліся?**

— (*смех*) Бегала па Кашалях, калі сонца зойдзе, бо ж удзень сорамна. Людзі будуць смяяцца. Дарэчы, як сказала, што збіраюся пастулаць на беларускую філалогію ў Варшаву, то суседкі сапраўды смяяліся. Казалі маёй маме: *Дэ вона достанэцце до Варшавы! Там жэ пошмароваты добрэ трэба*. Ніхто не шмараваў, а я паступіла. Аднак сама сабе магла перагарадзіць дарогу.

— **Як гэта?**

— У чацвёртым класе я выдумала сабе, што матуры здаваць не буду. І нават напісала заяву, што адмаўляюся ад экзамену на атэстат сталасці.

— **Чаму? Закахаліся ці што?**

— От, нейкая юнацкая дурасць. На шчасце дырэктар Карпюк адрэагаваў своечасова. Сабраў у маёй справе нараду настаўнікаў. Прысутнічалі, апрача яго і маёй выхавацелькі, Таіса Бялецкая, прафесары Анацік і Талвінскі. Дырэктар узяў маю заяву і кажа: *Як гэта так, добрая вучаніца і не хоча здаваць матуры. Ты перадумай гэта, а мы пакуль будзем лічыць, што ніякай тваёй просьбы не было*. І тут жа парваў маю заяву. Другой я пісаць не стала.

— **У якім годзе Вы сталі студэнткай беларускай філалогіі?**

— У 1972 годзе і адразу ўключылася ў беларускае грамадскае жыццё ў Варшаве. З сяброўкамі часта бывалі ў клубе Беларускага грамадска-культурнага таварыства па вуліцы Сенатарскай, ездзілі на Прагу ў сабор Марыі Магдаліны, на сустрэчы праваслаўнай моладзі, якія

У журы конкурсу з Аляксеем Марозам і Аляксандрам Іванюком.



У родных Кашалях.






З епіскапам бельскім Грыгорыем.

арганізаваў Янка Анхімюк, пазнейшы епіскап Іерэмія. А жыла я ў інтэрнаце па вуліцы Смычковай з украінкамі. Іх сябры ўсё мяне пераконвалі, што я таксама ўкраінка. Скончылася гэта тым, што аднойчы на 8 сакавіка Мар’ян Бэндза і Міхал Качор прынеслі мне вялікі букет кветак і «Гісторыю Пскова» з прысвячэннем: *Няхай браты беларусы ганарацца тым, што маюць такую сястру, якая заўсёды бароніць сваё*.

**— І Вы вярнуліся на Беласточчыну бараніць сваё. У асвеце.**

— З 1977 года я працавала настаўніцай у Пачатковай школе ў Малінніках. У 1982 годзе я стала метадычным дарадчыкам настаўнікаў беларускай мовы. Памятаю, прыехалі ў школу дырэктарка Гміннай школы ў Орлі Таццяна Ляўчук і яе намеснік Анатоль Мартыновіч і запрапанавалі мне працу настаўніка метадыста. Падтрымала мяне таксама Беларускае грамадска-культурнае таварыства і Асветная кураторыя ў Беластоку. І я пераехала ў Бельск, атрымала чатыры гадзіны ў тыдзень у Пачатковай школе № 3, а штат — у Цэнтры ўдасканальвання настаўнікаў (*Ośrodek Doskonalenia Nauczycieli*) у Беластоку. На гэтай пасадзе я напісала свой першы падручнік. А ў 1992 годзе перайшла на пасаду візітатара ў Асветную кураторыю. Гэта была цяжкая праца.

**— Чаму?**

— Было многа школ, якія мы кантралявалі. Удзень едзем, правяраем, а начамі пішам рапарты. І час быў такі, што якраз памянялася ў Польшчы ўлада. Адпаведна, змены прыйшлі і ў школы. Дырэктараў школ пачалі ппызначаць на аснове конкурсаў і яны пачалі праводзіцца ў маім візітацыйным раёне. Пры нагодзе вылазіла з людзей найгоршае. Колькі тады нашы людзі напісалі даносаў адзін на аднаго! Аж мне сорамна было перад польскімі калегамі. Я двудушная не была і ўмела сказаць праўду ў вочы. Затое і на мяне пісалі скаргі, адна з іх дайшла нават у Міністэрства нацыянальнай адукацыі, але яна рыкашэтам вярнулася да аўтара і скончылася яго дырэктарства ў школе.

У 1999 годзе ліквідавалі Бельскі аддзел асветнай кураторыі. Я паехала ў Беласток з просьбай вярнуць мяне на метадычнага дарадчыка. І хаця там пачула, што мяне ніхто не намерваецца звальняць (бо я хоць і жыла ў Бельску, і працавала на Бельшчыне, то фармальна была

прыпісана да Беластока), то не хацела ўжо больш быць візітатарам. Так склалася, што Ніне Абрамюк з канцом жніўня канчаўся яе тэрмін паўнамоцтваў як метадычнага дарадчыка і я вярнулася да сваёй старой функцыі.

**— Вы ўвесь час спалучалі прафесійную працу з грамадскай дзейнасцю на беларускай ніве.**

— Я ўсё клапацілася пра беларускае школьніцтва. Вельмі многа дапамагала мне ў гэтым Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Разам з дзеячамі таварыства: Янам Сычэўсім, Міхасём Хмялеўскім, Віталём Лубам ездзілі машынай БГКТ па школах. Такім чынам адрадзілі навучанне беларускай мовы ў Клюковічах, Нурцы-Станцыі, Мілейчычах, у Пачатковай школе [1] 5 у Гайнаўцы. За Клюковічы дзеячы Саюза ўкраінцаў Падляшша напісалі на мяне скаргу ў кураторыю, маўляў, я звяла на нішто іх намаганні адчыніць там пункт навучання ўкраінскай мовы. Скарга не мела ніякіх паслядоўнасцей, а мясцовыя жыхары выказаліся за беларускай мовай у школе.

**— Дэмаграфія ўсіх памірыла. У Клюковічах колькі гадоў няма ўжо школы.**

— Гэта, на жаль, праўда. Дарэчы, з тымі самымі ўкраінскімі дзеячамі я сёння ў вельмі добрых адносінах, супрацоўнічаю з імі на карысць Бельска. Наш калектыў Універсітэта трэцяга веку прымае ўдзел у «Падляшскай восені» ды іншых украінскіх культурных мерапрыемствах.

Затое глыбока сядзіць ува мне іншы выпадак, калі я сапраўды пацярпела за мой беларускі патрыятызм. На Супольнай беларуска-польскай камісіі па справах асветы, якая збіралася ў Гродне, я сказала, што Міністэрства нацыянальнай асветы Польшчы не цікавіцца беларускім школьніцтвам на Беласточчыне. Хаця гэтыя словы былі і так вельмі лагодныя, калі супаставіць іх з тым, што тады пра Беларусь гаварылі дзеячы Саюза палякаў у Беларусі, то мяне за іх пакаралі. Забралі мне камандзіровачныя, хаця не мелі на гэта права. На падляшскага куратара Пётра Літэрмуса націскалі, каб ён мяне звольніў. А калі чарговы раз я збіралася



У палацы Прэзідэнта РП.




ў Беларусь, то Літэрмус сказаў: *Zabraniam. Pani nagannie zachowała się w Grodnie.* Аб факце паінфармавала я Янку Сычэўскага, які ў далейшым перадаў справу беларускаму консулу ды амбасадару. Пасля іх інтэрвенцыі куратар прызнаўся: *Ja nic nie wiem. To sugestia ministerstwa.* Я яму растлумачыла сітуацыю: *Panie kuratorze, ja w Grodnie reprezentowałam białoruskie szkolnictwo na Podlasiu i w jego interesie występowałam. A jak by Pan — patriota — zachował się na moim miejscu? Dlaczego miałabym sprzedać mój naród?* Польская дзяржава кожныя пяць гадоў выдавала падручнікі для палякаў у Беларусі, а пра нас забылі на звыш чым дваццаць гадоў. Дык што, я павінна была пра гэта маўчаць? І за гэтыя словы мяне пераследавалі, а грошы, якія мне адабралі, пайшлі на ксяндзоў у Беларусі.

Меланія Собаньска-Бондарук, якая была ў складзе камісіі і працавала ў Міністэрстве адукацыі адказнай за навучанне нацыянальнай меншасці, канчаючы працу ў Міністэрстве, напісала мне: *Kończąc pracę w Ministerstwie chcę serdecznie podziękować Pani za rzeczową i mądrą współpracę, którą wysoko cenię. Pani zaangażowanie i troska zawsze była przejawem dobra dziecka i zachowaniem dziedzictwa kulturowego mniejszości białoruskiej.*

**— З працы Вас, аднак, не звольнілі.**

— Не. Неўзабаве Літэрмуса замяніў Тадэуш Калюта. Мая кіраўнічка сказала, што распытваў пра мяне і што з міністэрства былі націскі, каб мяне звольнілі. Мы з Сычэўскім пайшлі да новага куратара з кветкамі, павіншавалі яго

Фота Войцеха Войткелевіча, Gazeta Współczesna




Чалавек года «Кур'ера параннага» і «Газеты вспулчэснай».

з назначэннем. І я яму сказала: *Panie kuratorze, być może będą telefony z ministerstwa, żeby mnie zwolnić, bo jestem wrogiem, a tak naprawdę to będą chcieli się oczyścić, bo są winni wobec mnie.* Куратар пасля гэтага не даў мне адчуць, што мае якія-небудзь закіды да маёй асобы ці працы. Зрэшты, я працавала так, што не было да чаго прычапіцца. А звольнілася сама, намнога пазней, калі падляшскім асветным куратарам стаў Яраслаў Ружанскі.

**— Тады Вы вярнуліся на пасаду метадычнага дарадчыка.**

— Так. Хачу яшчэ толькі дадаць, з прыкрасцю, што ў той час нападала на мяне і «Ніва». Усё з-за таго, што я была звязана з Беларускім грамадска-культурным таварыствам, нават была ў свой час намесніцай старшыні арганізацыі. Але ж я нікога не чапала, ні з кім вайны не вяла. А тым часам у «Ніве» заўсёды выбіралі некарысныя мне здымкі, а то публікавалі нейкія дурасці, каб мяне нейк укусіць. Прыкра мне было, бо я ў тыднёвіку вяла раней рубрыку «У дапамогу настаўнікам беларускай мовы» і папулярызавала тыднёвік у школах, заклікала, каб выкарыстоўвалі «Зорку» на ўроках роднай мовы. Увесь час тлумачыла нашым настаўнікам, што «Ніву» трэба ў школе мець, што трэба яе выкарыстоўваць у працы з дзяцьмі.

**— Вас слухалі, бо Вы мелі вялікі аўтарытэт сярод настаўнікаў.**

— Мяне настаўнікі да сёння добра ўспамінаюць. Я старалася належным чынам ацаніць іх працу. За кожную іх актыўнасць пісала падзякі. Гэтым самым я, як быццам прадбачыла будучыню, бо гэтыя дыпломы пасля спатрэбіліся ім, калі рабілі ступені прафесійнага павышэння (*stopnie awansu zawodowego*). Ян Карчэўскі, сённяшні метадычны дарадчык, напісаў мне э-мэйл: *Вы ападыктычная асоба. Але я Вас цаню за тое, што Вы зрабілі для беларускай асветы.* Магу адкрыта сказаць, што я не была звычайным настаўнікам.

**— Пані Тамара, Вы споўнены чалавек. Маглі б ужо і адпачыць сярод шматколернага мора кветак у Вашым агародзе ў Кашалях.**

— Сапраўды, я да кветак, да раслін маю добрую руку. Прывожу ўсё новыя з кожнага падарожжа і яны ў мяне добра прымаюцца. Але ж яны самі расці не будуць, іх таксама трэба даглядаць: падліваць, палоць, перарываць, перасаджваць, угнойваць. Адным словам, салідна папрацаваць. Ну, але я гэта люблю, як і грамадскую працу. Я ж яшчэ, апрача вышэй пералічанага, была многія гады ва ўправе жыллёвага кааператыва. І не сама туды паперлася, а папрасілі мяне. Таму неяк натуральна сталася, што дзесяць гадоў таму заснавала я ў Бельску Універсітэт трэцяга веку і да сёння з'яўляюся яго старшынёй.

**— Не цяжка выцягнуць старэйшых людзей з кватэр?**

— Скажу так: нялёгка. Аднак з гадамі я пераканалася, што не столькі колькасць важная, колькі якасць. Наш універсітэт складаюць тыя, якія пераканаліся, што варта выйсці да людзей, сустрэцца, пагаварыць, нечаму навучыцца, штосьці супольна зрабіць.

**— А што робіце, чым займаецеся?**

— Па-першае, рэгулярна збіраемся кожны чацвер пры самавары. Размаўляем, спяваем народныя і патрыятычныя песні, рыхтуем тэатральныя сцэнкі, пішам вершы і апавяданні, выдаем літаратурныя зборнікі. Плануем выезды, экскурсіі. Супрацоўнічаем з многімі грамадскімі арганізацыямі, напрыклад з каталіцкім дабрачынным таварыствам «Карытас» Драгічынскай дыяцэзіі. Удзельнічаем у культурных мерапрыемствах, якія адбываюцца ў нашым горадзе. Хачу падкрэсліць, што ў нашай дзейнасці важную ролю адыгрывае беларускі фактар. Мы прымаем удзел у фестывалях беларускай песні, у аглядах абрадавых сцэнак, арганізаваных Беларускім таварыствам. Пішам літаратурныя творы па-беларуску, спісваем мясцовыя казкі і легенды. Бельскі Універсітэт трэцяга веку гэта ўжо добра пазнавальная марка не толькі ў горадзе. Розных падзяк, дыпломаў атрымалі мы ўжо некалькі кілаграмаў. Вельмі цаню ўзнагароду «Бельскі анёл», якую мне асабіста ў 2017 годзе ўручыў Бельскі дом культуры. Гэта прызнанне таго, што я за сваю дзейнасць не бяру ні залатоўкі, усё раблю на грамадскіх асновах. Калі трэба, то і не дасплю, бо, напрыклад, мусова спячы хлеб ці падрыхтаваць іншыя стравы на нейкую абрадавую вечарыну ці проста сяброўскую сустрэчу. А за 2017 год у плебісцыце *Osobowość roku 2017*, арганізаваным штодзёнкамі



З сям'ёю

Фота Ізабэлы Плуг




Інтэрв'ю Івоне Бялецкай-Уладзіміраў з Гарадской публічнай бібліятэкі ў Бельску на дачы ў Кашалях.

*Kurier Poranny* і *Gazeta Współczesna*, я заняла другое месца і як адзіная атрымала спецыяльную ўзнагароду галоўнага рэдактара.

**— Адкуль у Вас такая грамадская актыўнасць? З бацькоўскага дому вынеслі, ці такі ўжо характар? А можа таму, што маеце падтрымку мужа?**

— Не, Янак мяне ў гэтым не падтрымлівае. Добра што паможа зацягнуць торбы з прадуктамі на нейкую імпрэзу. Я сама па сабе такая, што не магу жыць без грамадскай працы. Відаць таму, што люблю людзей і раблю ўсё дзеля іх. Ці вынесла гэта з дому? А хто яно знае. Мусіць не. Адно што запомніла на ўсё жыццё мудрыя словы мамы, якая закончыла ўсяго тры класы санацыйнай школы: *Дзіця, ніколі і нідзе не кідай у людзей камяні, а будзеш мець хлеб.*

Размаўляў
**Мікола ВАЎРАНЮК**

Тамара Русачык

# Карусель

Бацька з маці
Пасадзілі мяне
На карусель жыцця.
Павольныя павароты
майго маленства
Ўнеслі нечакана
ў вір няўмольнага быцця.
Карусель пачала круціцца
Хутчэй, шырэй, вышэй.
Штораз уносіла ў свет
Клопатаў, трывог, слёз
І шчасця.
У палётах насупраць
Ветру, долі, жаданняў.
У галаве кружылася,
Вусны цалаваліся,
Сэрца шчымела,
Вочы смяяліся
І плакалі?
Калі затрымаешся?..

*„Co w duszy seniora gra...?"*
Bielsk Podlaski 2020

# МедыяКЛАС!

## практыкаванні, урокі, ідэі для выхаваўчых заняткаў



Тамара Мацкевіч,
Таварыства беларускай школы

Вядома, што светапогляд асобы фармуюць школа і медыя. Здавалася б, трэба аб'яднаць намаганні, але пакуль так не атрымліваецца. Школа прайграе медыя ў барацьбе за ўвагу вучня. Ну якая можа быць матывацыя да навучання адпаведна праграмы, класічных твораў і папяровых падручнікаў, калі навокал усё блішчыць, мільгае экранамі, вабіць рэкламай...

У свеце прапануюць выйсце — інтэграваць медыя ў змест школьных прадметаў. Такім чынам мы не толькі падвысім матывацыю, зробім школьныя веды актуальнымі і зможам больш сучасна іх падаць вучням, мы яшчэ навучым новае пакаленне крытычна асэнсоўваць інфармацыю, якая трапляецца ў газетах, інтэрнэце, тэлебачанні... А быць медыяпісьменнымі ў сучасным інфармацыйным свеце не менш важна, чым быць проста пісьменнымі.

У гэтым артыкуле мне б хацелася пазнаёміць калег з практыкаваннямі і ідэямі беларускіх настаўнікаў, якія дазваляюць з дапамогай медыякрыніц зрабіць школьныя веды актуальнымі, а працэс вывучэння прадмета больш цікавым. Гэтыя практыкаванні з'явілася як адказ беларускіх настаўнікаў-практыкаў на выклікі 2020-2021 гадоў, што карэнным чынам мяняюць адукацыю.

У час пандэміі каранавіруса, інфармацыйных войнаў, выбуху сацыяльных медыя з-за хібаў адукацыі, людзі не змаглі крытычна ацаніць інфармацыю, якая з'яўлялася ў медыя, і паддаваліся паніцы або верылі фэйкам і чуткам.

Настаўнікі Беларусі адчуваюць выклікі інфармацыйнага грамадства, аднак разглядаюць іх не як пагрозу, а як штуршок да развіцця.

Менавіта з гэтай мэтай Таварыства беларускай школы і сайт Nastaunik.info вядуць праграму медыяадукацыі для настаўнікаў. За гэты час адбылося пяць доўгатэрміновых дыстанцыйных курсаў-практыкумаў, падчас якіх настаўнікі вывучалі замежны і беларускі досвед інтэграцыі медыя ў навучальны працэс, укаранялі найлепшыя практыкі ў свае заняткі. Настаўнікі ўбачылі, што пры гэтым дзецям больш падабаецца вучыцца, яны з ахвотай ходзяць у школу. У выніку настаўнікі стварылі MediaToolkit (http://nastaunik.info/mediatoolkit/) — электронны банк практыкаванняў для развіцця медыяпісьменнасці. У яго ўвайшлі практыкаванні, якія дапамагаюць настаўнікам на прыкладзе медыятэкстаў патлумачыць вучням змест урока, а разам з тым даюць адказ на шмат іншых пытанняў.

Як адрозніць фэйк ад праўды? Як праверыць надзейнасць крыніц інфармацыі? Ці можна давяраць рэкламе? Чаму адна і тая ж падзея выклікае розную рэакцыю ў людзей? Што рабіць, калі цябе троляць? Як не заблытацца ў сацыяльных сетках і не стаць ахвярай кібербулінгу?

Таксама ў 2021 г. па-беларуску выдадзеная ТБШ кніга-мануал „МедыяКлас!"

Кніга змяшчае практыкаванні для ўрокаў, гатовыя выхаваўчыя заняткі і элементы трэнінгаў.




Спампаваць яе можна па спасылках:

( http://www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/medyyaklas_dapamozhnik.pdf)

Прапанаваныя практыкаванні дазваляюць настаўнікам:

- планаваць вучэбныя заняткі з медыяадукацыйным зместам па тэме свайго ўрока;
- абмяркоўваць і планаваць стварэнне атмасферы ў класе, якая б спрыяла ўсведамленню вучнямі пераваг і небяспекі інфармацыйнага свету, разуменню ролі медыя ў грамадстве, адказнаму стаўленню да аўтарскіх правоў, свабоды слова;
- узмацняць і пашыраць актыўны і адказны ўдзел вучняў і дарослых у стварэнні інфармацыйнай прасторы.

Кожнае практыкаванне (урок) мае ў загалоўку назву, пералік медыякампетэнцый, фарміраванню якіх яно спрыяе, узрост вучняў, прадмет, прыкладны час, патрэбны для яго правядзення, пералік скарыстаных метадаў і матэрыялаў для падрыхтоўкі.

Абсалютная большасць практыкаванняў з'яўляецца ўніверсальнымі і могуць быць выкарыстаны як элементы трэнінгаў і семінараў па медыяпісьменнасці, выхаваўчых, навучальных і забаўляльных мерапрыемствах для розных мэтавых груп.

Кожнае практыкаванне, матэрыял для раздрукоўкі, артыкул, відэа- і аўдыядадатак вы можаце знайсці ў электроннай форме па адпаведных QR-кодах або актыўных спасылках у PDF версіі кнігі.

Мы павінны памятаць, што школа і медыя фарміруюць масавую свядомасць. Школа закладае карціну свету. У ідэале — гэта навуковая карціна свету з сістэмнымі ведамі, навыкамі крытычнага мыслення і разуменнем сябе ў гэтым свеце, сваёй ідэнтычнасці.

# СТАРОНКА ГІСТАРЫЧНАЙ ПЕРСОНЫ Ў САЦСЕТКАХ, АБО КАЛІ Б СКАРЫНА БЫЎ У ІНСТАГРАМЕ...

**Метады:** дыскусія, індывідуальная праца, праца ў групах, праект.

**#медыя:** #уплыў медыя на асобу і грамадства

#стварэнне, апрацоўка, прэзентацыя

#сацыяльныя медыя

**Час:** 45 хвілін

**Прадмет:** Мова, Літаратура, Гісторыя, Мастацтва, Літаратура, Выхаваўчы занятак

**Узрост:** Дзеці, падлеткі

**Тэма:** Біяграфія дзеяча

**Падрыхтоўка:** доступ у інтэрнэт для работы з сацыяльнымі сеткамі, экран ці дошка для дэманстрацыі работ вучняў

**Тулкіт:**

**Мэта (ідэя):** Пры вывучэнні біяграфіі пісьменніка, літаратурнага ге роя ці іншай постаці вучням прапануецца стварыць старонку гэтай асобы ў сацыяльнай сетцы. Ствараючы старонку, вучні прааналізуюць інфармацыю, якую ўтрымлівае профіль карыстальніка пэўнай сацыяльнай сеткі, знойдуць магчымых сяброў-сучаснікаў героя, вылучаць важныя падзеі.

**Этапы:** Апісанне

**Падрыхтоўчы:** Настаўнік у якасці дамашняга задання прапануе замест паведамленняў пра жыццё пэўнага дзеяча (гістарычнай асобы, пісьменніка, навукоўца) зрабіць яго старонку ў сацыяльнай сетцы (на выбар). Галоўная ўмова — выкарыстанне гістарычных звестак і дадатковых матэрыялаў, цытат, сувязяў і стасункаў з іншымі гістарычнымі асобамі, што жылі ў той жа перыяд.

Крытэрыі паспяховасці выканання задання:

1. Наяўнасць у медыяперсоны ніка і аватара.
2. Наяўнасць тэкставай і візуальнай інфармацыі пра асобу (асабістыя звесткі, адукацыя, месцы жыцця, праца, вандроўкі, дасягненні, прачытаныя кнігі, музыка і інш.)
3. Допіс пра што-небудзь важнае для гэтай асобы (рэакцыі, папулярнасць допісу).

Для матывацыі вучняў можна паказаць наступны праект Daria Sazanovich:




**Прэзентацыя работ і іх абмеркаванне:**

Вучні прэзентуюць вынікі сваёй работы. Перад прэзентацыяй можна прапанаваць пытанні, на якія варта звяртаць увагу:

- Што нам паведамляюць нік, аватар і персанальная інфармацыя пра характар асобы (адкрытасць ці закрытасць, добразычлівасць ці агрэсіўнасць, ганарлівасць ці сціпласць, сур'ёзнасць ці гарэзлівасць)?
- Што чалавек посціць у сетцы? Як гэта яго характарызуе?
- Пра што гавораць сябры і фаловеры? Ці гэта сапраўдныя сябры?

- Якія словы выкарыстоўваюцца ў перапісцы?
- Гэты віртуальны вобраз прыцягвае ці адштурхоўвае?
- Ці можна ствараць акаўнты ад імя гістарычнай асобы ў сацыяльнай сетцы? Ці не будзе гэты акаўнт лічыцца фэйкавым?

**Парады настаўніку:** Для таго, каб пазбегнуць абвінавачванняў у стварэнні па сутнасці фэйкавых акаўнтаў, лепш карыстацца спецыяльнымі платформамі, якія імітуюць сацыяльныя сеткі, ці спецыяльнымі сэрвісамі.

Сэрвісы па імітацыі допісаў у Твітары:

Самае простае і эфектыўнае працаваць з шаблонам сацыяльнай сеткі на лісце паперы.

Найлепшы эфект для разумення алгарытмаў працы сацыяльных сетак — калі некалькі вучняў падрыхтавалі старонкі аднаго дзеяча ў розных сетках.




Напрыклад, медыяпрофілі Скарыны ў Facebook, Instagram, TikTok

**Аўтары ідэі:** Таццяна Багдановіч, Алена Палейка

# ТВОРЧЫЯ ДАМАШНІЯ ЗАДАННІ

**Метады:** індывідуальная праца, праца ў групах, праект.

**#медыя:** #стварэнне медыя;

#апрацоўка, #прэзентацыя;

#сацыяльныя медыя

**Час:** —

**Прадмет:** Любы прадмет

**Узрост:** Дзеці, падлеткі

**Тэма:** Любая

**Падрыхтоўка:** Не патрэбна

**Тулкіт:**

**Мэта (ідэя):** Вучні атрымліваюць дамашняе заданне на выбар: звычайнае і творчае. Творчае заданне можа быць звязанае з тэмай заняткаў і з тым, што вучні любяць рабіць. Як варыянт — прапануйце ім зняць ролік школьных навін з выкарыстаннем ведаў, атрыманых на ўроку.

**Этапы:** Апісанне

**Падрыхтоўчы:** Настаўнік дае на выбар некалькі варыянтаў дамашняга задання: звычайнае і творчае. Творчае заданне можа быць звязанае з тым, што вучні любяць рабіць: здымаць відэа, весці блогі, гатаваць ежу, граць на музычных інструментах, спяваць...Творчыя заданні маюць форму медыяпраектаў і потым выкладаюцца ў асобную суполку ў сацыяльных медыя. Суполка можа быць як закрытая , так і адкрытая. Дамашнія заданні могуць выконвацца як у групах, так і індывідуальна.Творчыя дамашнія заданні адкрытыя для абмеркаванняў, ацэнкі, узаемаацэнкі і іншых форм работы.

**Варыянты творчых заданняў:**

1. Беларуская мова. Тэма „Беларускія стравы". Зняць відэаролік-рэцэпт гатавання якога-небудзь традыцыйнай беларускай стравы. Для гэтага трэба: выбраць нацыянальную беларускую страву (праз інтэрнэт, кулінарныя

кнігі, кансультацыі з бабулямі, сваякамі ці дасведчанымі асобамі); распрацаваць відэасюжэт; угаварыць бабулю, маму ці тату прадэманстраваць сваё майстэрства на камеру; зняць відэасюжэт на беларускай мове; падабраць музычнае афармленне да відэасюжэта ў адпаведным стылі; засвоіць праграму стварэння (мантажу) відэафільмаў; змантаваць свой відэасюжэт, падключыўшы пры гэтым тату, маці, суседа, сваяка, сяброў, знаёмых, аднакласнікаў і прымусіць іх усіх жыць стварэннем фільма даволі працяглы час.

Прыклад ролікаў, якія атрымаліся, як дзеці гатавалі стравы з бабулямі і пераймалі ад іх рэцэпты і беларускую мову:

http://www.nastaunik.info/node/14603

**Прыклады творчых заданняў**

1. Беларуская мова. Вуснае маўленне. Зрабіць выпуск школьных навін.
2. Беларуская мова. Вуснае маўленне. Агучыць ролік, мультфільм. (Настаўнік або сам выбірае ролік на пэўную тэму, або дае гэта права вучням. Агучка можа запісвацца на звычайны смартфон.)
3. Беларуская мова. Стварыць медыяпраект у любым жанры з ужываннем лексікі, граматычных канструкцый, тэм, якія тычацца пэўнага занятку...
4. Гісторыя. Літаратура. Зрабіць комікс на тэму гістарычнай падзеі, літаратурнага твора.
5. Беларуская мова і літаратура, мастацтва. Стварыць рэкламны ролік (буктрэйлер) кнігі, літаратурнага твора, верша, карціны, музычнага інструмента, тэатральнай пастановы,
6. Беларуская мова. Стылі маўлення. Падрыхтаваць вуснае віншаванне.
7. Беларуская мова. Тэма: „Лічэбнікі". Падрыхтаваць паведамленне ў любым жанры пра статыстыку нашага класа (школы).
8. Зрабіць рэкламу на беларускай мове — свайго класа, школы, вуліцы, горада, любімага верша... (паведамленне ў любым жанры).
9. Беларуская літаратура. Запісаць караоке песні «Спадчына» на словы Янкі Купалы.

10. Напісаць адкрыты ліст на тэму: «Што я распавяду пра Янку Купалу свайму замежнаму сябру».
11. Народныя святы. Зрабіць інфаграфіку-параўнанне: як святкуюць каляды беларусы (на выбар любая краіна).
12. Беларуская мова. Лексіка. Аналіз газетнага артыкула з пункту гледжання выкарыстання мовы нянавісці, стэрэатыпаў, маніпуляцый і прапаганды.

**Прэзентацыя работ і іх абмеркаванне:**

Вучні прэзентуюць вынікі сваёй работы. Перад прэзентацыяй можна прапанаваць пытанні, якія тычацца тэмы занятку і на якія варта звяртаць увагу. Калі праекты выкладаюцца ў суполку, то можна прапанаваць вучням пакінуць каментарыі па адпаведных крытэрыях Напрыклад, адзначыць, што найбольш спадабалася, пра што новае даведаліся...

**Парады настаўніку:** Больш ідэй і медыпраекты, якія атрымаліся ў вучняў глядзіце ў суполцы СШ № 20 г. Оршы «Школьная медыялабараторыя».

https://vk.com/public159779044

**Аўтары ідэі:** Алена Панкратава

# ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ: „КАЗА-МАНЮКА” ЦІ „КАЗА-МАНІПУЛЯТАРКА”? ЧАМУ ВУЧЫЦЬ КАЗКА СУЧАСНЫХ ЛЮДЗЕЙ.

**Метады:** мазгавы штурм, групавая праца, дыскусія.

**#медыя:** #маніпуляцыі;
#дэзінфармацыя;
#мова медыя

**Час:** 45 хвілін

**Прадмет:** Беларускае чытанне

**Узрост:** Дзеці

**Тэма:** Казка „Каза-манюка”

**Падрыхтоўка:** Праектар, таблічкі з выявамі герояў і аўтара

**Тулкіт:**

**Мэта:** Вучні чытаюць беларускую казку „Каза-манюка” і параўноўваюць яе з польскім мультфільмам „Kozucha Kłamczucha”.

Напрыканцы ўрока вучні:

- будуць ведаць, што такое маніпуляцыі і прыводзіць уласныя прыклады;
- будуць умець чытаць тэкст па ролях, з дапамогай інтанацыі перадаваць эмоцыі і сэнс сказанага;
- змогуць знайсці не менш за два падабенствы і адрозненні ў беларускай і польскай казцы, выказаць здагадкі, чаму казкі падобныя.

Задачы настаўніка:

- фармаваць уменне даваць ацэнку паводзінам герояў казкі, суадносіць іх з уласнымі ўчынкамі і паводзінамі;
- развіць уменне вылучаць маніпулятыўныя прыёмы і спосабы іх раскрыцця;
- садзейнічаць выхаванню ў вучняў разумення пра адмоўную ролю маны для дасягнення мэты.

**Этапы:** Апісанне ўрока

**Папярэдняя падрыхтоўка:** Вучні дома ці ў класе знаёмяцца са зместам казкі „Каза-манюка", ведаюць сюжэт, герояў, словы „мана", „манюка". Вучні ведаюць асаблівасці жанру казкі, што казка мае выхаваўчае значэнне.

Медыякрыніцы: Тэкст казкі ў падручніку „Літаратурнае чытанне. 2 клас: вучэбны дапаможнік, ч. 1", Н. У. Антонава, І. А. Буторына, Г. А. Галяш, Казка „Каза-манюка" (Беларуская народная казка)

Мультфільм „Kozucha Kłamczucha" па-беларуску (Польшча)

https://youtu.be/duEIwOAiMgM

**Матывацыйны этап:** Пытанні настаўніка для вучняў:

— Як вы лічыце, чаму людзі хлусяць? Ці дапамагае мана вырашаць праблемы? (Вучні выказваюцца.)

— Шукаць адказы на гэта пытанне мы будзем на працягу ўсяго ўрока, а дапаможа нам казка, якую мы ўжо пачалі вывучаць: „Каза-манюка".

**Увядзенне паняцця „маніпуляцыя”:** На дошцы змешчаны словы „мана”, „маніць”, „падманваць”, „маніпуляцыя”.

Вучні адказваюць на пытанне, ці ўсе словы ім зразумелыя? (не зразумелае — „маніпуляцыя”). Заўважаюць, што першая частка гэтага слова аб'ядноўвае яго са словамі „мана” і „маніць”? Як вы лічыце, што яно можа абазначаць? (Дзеці выказваюць меркаванні.)

Настаўнік тлумачыць слова „маніпуляцыя”:

*Маніпуляцыя — гэта скрыты прыём, які выкарыстоўваецца, каб прымусіць чалавека насуперак яго інтарэсам, зрабіць патрэбныя вам дзеянні. Часта гэта выглядае так, нібыта чалавек сам захацеў гэта зрабіць.*

**Аналіз паводзін герояў праз гутарку:** Настаўнік задае пытанні, выкарыстоўваючы метад непадымання рукі. Дзеці спачатку абмяркоўваюць адказ у парах, потым настаўнік выпадкова (праз лёсаванне) выклікае вучня.

- Хто выкарыстоўвае маніпуляцыі ў казцы „Каза-манюка”?
- Каго падманвала каза? *(Дзеда.)*
- Навошта каза падманвала дзеда? (Каб яе пашкадавалі.)
- Якія прыёмы выкарыстоўвала каза для маніпуляцыі? *(З<u>мяншэнне, перабольшванне, недакладнасць фактаў, падман, запалохванне.</u>)*
- Ці заўсёды ў яе атрымлівалася?
- Як дзед раскрыў ману? *(<u>Праверыў на ўласным вопыце.</u>)*
- Каго яшчэ падманвала каза? *(Мядзведзя, воўка, пеўня.)*
- Навошта? *(Каб застацца жыць у зайчыкавай хатцы.)*
- Ці заўсёды атрымлівалася запалохаць звяроў? Чаму? *(Певень <u>валодаў дакладнай інфармацыяй</u>, што гэта быў за звер, яе <u>не баяўся.</u>)*
- Чаму воўк і мядзведзь паддаліся мане казы? *(Са страху.)*
- Ці змаглі б яны выгнаць яе з хаткі, калі б не баяліся?
- Які прыём выкарыстоўвала каза, каб напужаць? *(<u>Запалохванне, перабольшванне</u> <u>фактаў.</u>)*
- Хто яшчэ з герояў выкарыстаў маніпуляцыю? *(Певень.)* Дакажыце словамі з тэксту. Навошта? *(Каб напужаць казу.)*
- Ці зрабіла мана казу шчаслівай? Дакажыце.
- Як вы разумееце прыказку „Мана не давядзе да дабра”?

Падкрэсленыя словы падчас гутаркі настаўнік запісвае на дошцы ў два слупкі: „як маніпулююць” і „як абараніцца ад маніпуляцыі”. Настаўнік звяртае ўвагу на дошку і задае пытанне: „Ці сустракалі вы падобныя маніпуляцыі ў сваім жыцці? Ці выкарыстоўваеце іх самі?”

**Чытанне па ролях:** Настаўнік тлумачыць, як трэба чытаць словы герояў у залежнасці ад мэты іх выказвання.

Вучні атрымліваць таблічкі герояў казкі. Вучні чытаюць казку па ролях, настаўнік вылучае ўдалыя моманты.

**Праца з відэа. Параўнанне мультфільма і казкі:** Вучні глядзяць першыя 4 хвіліны мультфільма па матывах казкі „Kozucha Kłamczucha" па-беларуску. Яны разумеюць, што нешта не так.

— Ці здагадаліся, як называецца казка, з якой яна краіны?

Настаўнік тлумачыць, што пра адно і тое ж можна сказаць рознай мовай. Мультфільм мае сваю мову (карцінкі, кадры), яна адрозніваецца ад мовы казкі (слоў). Прапануе вучням знайсці падабенствы і адрозненні ў двух варыянтах казкі. (Праца ў групах: адна група шукае падабенствы, другая — адрозненні.) Для дапамогі вучням можна выкарыстаць табліцу:

| Што або каго параўноўваем | Супадзенне | Адрозненне |
|---|---|---|
| Героі | | |
| Сюжэт | | |
| Галоўная думка | | |

**Ацэнка і рэфлексія:**

Настаўнік задае пытанні:

– Чаму мы вучыліся сёння на ўроку? (Адрознівацьману ад праўды, распазнаваць маніпуляцыі, чытаць па ролях, параўноўваць розныя варыянты казкі.)
– Як распазнаць маніпуляцыі? (Зварот да слоў на дошцы.)
– Як мы можам даведацца, ці праўду кажа чалавек? (Уласны вопыт, праверыць інфармацыю, спытаць у бацькоў, настаўніка, знайсці ў інтэрнэце звесткі.)
– Ці дапамагае мана ў жыцці? Чаму?
– Што агульнага ў польскім і беларускім варыянце казкі? (Галоўная думка.)

Настаўнік прапануе размясціць свой стыкер там, дзе вы згодны:

Мана не давядзе да дабра.

Адзін раз зманіць можна.

Дамашняе заданне на выбар:

1. Закончыць прагляд мультфільма і працягнуць работу па вылучэнні падабенстваў-адрозненняў казкі і мультфільма. Крытэрыі ацэнкі: запісаць не менш за пяць знойдзеных падабенстваў і адрозненняў.
2. Праглядзець разам з бацькамі якую-небудзь рэкламу, паведамленне ў СМІ, іншую казку ці ўзгадаць сапраўдную падзею, дзе былі спробы маніпуляцыі, падумаць, што можна зрабіць, каб табой не маніпулявалі.

**Парады настаўніку:** Прыём параўнання твора і яго экранізацыі можа быць шырока выкарыстаны для вывучэння літаратурных твораў. Ён дазваляе заглыбіцца ў змест твора, адрозніць аўтарскі твор ад яго інтэрпрэтацыі, зразумець мову медыя, з дапамогай якой перадаюцца эмоцыі, ідэі.

**Аўтар:** Надзея Жвавая

# СНЯДАНАК З ГЕРОЕМ

**Метады:** індывідуальная праца, групавая праца, дыскусія

**#медыя:** #роля медыя;

#уплыў медыя на асобу і грамадства

**Час:** 15 хвілін

**Узрост:** Дзеці, падлеткі, дарослыя

**Тэма:** Медыясфера сучаснага грамадства

**Падрыхтоўка:** Дошка ці фліпчарт, маркеры

**Тулкіт:**

**Мэта (ідэя):** Вучні вызначаць герояў, з якімі яны хацелі б сустрэцца і пагаварыць падчас сняданку, прааналізуюць і абмяркуюць, чаму яны зрабілі такі выбар, колькі з герояў медыяперсоны, і зразумеюць, наколькі думкі і паводзіны людзей залежаць ад уплыву медыя.

**Этапы:** Апісанне практыкавання

**Праца ў групах:** Настаўнік аб'ядноўвае вучняў у групы (5-6 чалавек) і прапануе пасля абмеркавання вылучыць аднаго героя ад кожнай групы (вынік запісваецца на дошцы).

Потым ад кожнай групы запрашаецца па адным прадстаўніку і яны вызначаюць адзінага героя. Вынік таксама запісваецца на дошцы.

Настаўнік збірае аркушы з імёнамі ўсіх герояў і раскладае іх па групах, пакуль дзеці працуюць над вызначэннем героя-пераможцы.

Мяркуецца, што сярод прапанаваных герояў будуць кінаакцёры і кінагероі, папулярныя блогеры, поп-зоркі, рэперы, героі літаратурных твораў, розных жартаў, персанажы коміксаў, палітыкі, спартсмены.

**Абмеркаванне персаналій у класе:**

Настаўнік прапануе пытанні для абмеркавання:

- Колькі з названых герояў мы ведаем толькі па медыя?
- Што можна сказаць пра ўплыў медыя на людзей?

Плануецца, што вучні здолеюць абгрунтаваць высновы пра сучаснае медыяспажыванне і ролю медыя і ўплыў медыя на свядомасць кожнага чалавека.

**Парады настаўніку:** Такое практыкаванне добра праводзіць для знаёмства. Настаўнік можа зрабіць высновы пра каштоўнасці аўдыторыі.

Практыкаванне мэтазгодна правесці напачатку занятку. Яно добра падыходзіць для работы як з дзецьмі і падлеткамі, так і з педагогамі, дарослымі людзьмі.

За час правядзення практыкавання адказы былі самыя розныя: у настаўнікаў перамагалі Шрэк, Уладзімір Караткевіч, Ала Пугачова, Джоні Дэп, Нік Вуйчыч і нават Пуцін. Вучні называлі, як правіла, вядомых акцёраў, музычных куміраў, трапляўся і Стыў Джобс. Аднак амаль не было выпадку, каб нехта захацеў сустрэцца за сняданкам са сваёй прапрапрабабуляй ці з самім сабой у будучыні, каб запытацца пра сваё, блізкае, а не медыйнае. Удзельнікі лёгка рабілі высновы пра ўплыў медыя на нашы думкі, меркаванні, дзеянні і ўчынкі. Пасля падобных практыкаванняў міні-лекцыя пра медыя ўспрымаецца аўдыторыяй больш матывавана, бо кожны прымярае змест на свой асабісты досвед.

**Аўтар:** Алена Радзевіч

# ЗОРКА ІДЭНТЫЧНАСЦІ Ў МЕДЫЯ

**Метады:** індывідуальная праца, групавая праца, дыскусія

**#медыя:** #роля медыя;

#уплыў медыя на асобу і грамадства;

#сацыяльныя сеткі

**Час:** 25 хвілін

**Прадмет:** Выхаваўчы занятак; Грамадазнаўства

**Узрост:** Падлеткі

**Тэма:** Сацыяльныя статусы, ролі і мабільнасць

**Падрыхтоўка:** Гаджэты з выхадам у інтэрнэт

**Тулкіт:**

**Мэта (ідэя):** Вучні ўсвядомяць, як праяўляецца іх асоба (ідэнтычнасць) у сацыяльных сетках.

**Этапы:** Апісанне практыкавання

**Мая зорка. Індывідуальная праца (2-3 хвіліны):** Індывідуальная праца: настаўнік просіць вучняў прадставіць на аркушы паперы інфармацыю пра сябе (пра сваю асобу, індывідуальнасць) у выглядзе малюнка васьміканцовай зоркі, у якой будуць прадстаўленыя нейкія звесткі: імя, узрост, пол, грамадзянства, сямейнае становішча, рэлігія, этнічная прыналежнасць, праца/вучоба, музычныя густы, хобі, стаўленне да спорту, агульныя сімпатыі і антыпатыі і інш.).



Настаўнік прапануе кожнаму ўдзельніку вылучыць тры самыя галоўныя праявы-„прамяні" сваёй асобы (напрыклад, жанчына, беларуска, настаўніца).

**Новае знаёмства. Праца ў парах 2-3 хвіліны:** Праца ў групах: настаўнік прапануе вучням уявіць сябе незнаёмцамі і па-новаму прадставіцца адзін аднаму (на працягу адной хвіліны па чарзе). Пасля „знаёмства" запытваецца, якую інфармацыю з „Зоркі ідэнтычнасці" удзельнікі выкарысталі, а якая не спатрэбілася. Чаму? (Настаўнік можа пракаментаваць, што не ўся інфармацыя пра асобу, яе ўнутраны свет, каштоўнасці паведамляецца іншаму чалавеку, яна можа быць вельмі асабістая, прыватная, не публічная.)

**Я сярод іншых. Франтальная праца (5-6 хвілін):** Настаўнік прапануе вучням высветліць, ці шмат яны маюць агульнага з іншымі людзьмі ў сваім класе, групе. Для гэтага трэба сесці ў кола ці павярнуцца, каб усе бачылі адзін аднаго.

Настаўнік тлумачыць, што калі ён называе нейкую характарыстыку асобы з „Зоркі ідэнтычнасці" (характарыстыку, якая вызначае пол, грамадзянства, нацыянальнасць, рэлігію, прафесію і г.д.), у каго яна ёсць у зорцы — трэба ўстаць. Пасля слова „Дзякуй" усе садзяцца, але застаюцца стаяць тыя, у каго гэта адзін з трох галоўных прамянёў. Яны садзяцца пасля слоў „Вялікі дзякуй".

**Я ў сацыяльных сетках. Індывідуальная праца (6-8 хвілін):** Настаўнік запытваецца ў вучняў: „Як праяўляецца наша ідэнтычнасць у сацыяльных сетках?" і прапануе вярнуцца да сваёй „зоркі" і адзначыць на ёй, які „прамень" і ў якой сетцы праяўляецца. Ці праяўляюцца тры галоўныя прамяні і якім чынам?

Пасля гэтай работы настаўнік прапануе вучням папрацаваць над уласным медыяпрофілем у сацыяльнай сетцы з паметкай **„Пытанні для аналізу медыяпрофілю персоны"** і зрабіць выснову, ці адпавядае ён мэтам стварэння акаўнта ў сетцы. Памятка:

Пытанні для аналізу медыяпрофілю персоны

1. У якіх сацыяльных сетках ёсць уліковы запіс (акаўнт)?
2. Ці выкарыстоўваецца асабістае фота ў медыяпрофілі? Якая асабістая інфармацыя з'яўляецца агульнадаступнай?
3. Як часта выкарыстоўваецца Сетка?
4. Якія фатаграфіі пераважаюць у стужцы:

   — з адпачынку, падарожжаў, сямейных свят, значных падзей

   — сэлфі

   — аб прафесійнай дзейнасці, вучобе

   — хобі, коцікі, кветачкі
5. Хто бачыць паведамленні? Для якой аўдыторыі ствараюцца паведамленні?

   — для ўсіх без абмежавання доступу

— для сяброў сяброў

— сяброў

6. Аб чым часцей за ўсё пасты, публікацыі:

— дзеліцца карыснай інфармацыяй, уласнымі назіраннямі, вопытам калег і інш.

— піша пра сябе, дзеліцца чужымі пастамі, тэстамі, публікуе віншаванні.

**Падвядзенне вынікаў (3-4 хвіліны):** Настаўнік прапануе кожнаму коратка адказаць на пытанне, абапіраючыся на свае вынікі: „Што мне трэба (не трэба) паправіць у сваім медыяпрофілі і чаму?"

**Парады настаўніку:** Падчас агучвання пэўных прамянёў могуць устаць і застацца стаяць амаль усе прысутныя ці, наадварот, устануць і застануцца стаяць адзін-два чалавекі. Таму пасля трэба абмеркаваць, ці было камфортна стаяць аднаму, што адчувалі, калі ўзняліся ўсе прысутныя, калі ніхто не падняўся і г.д.

Калі тэмп выканання практыкавання даволі высокі, мэтазгодна прапанаваць вучням вылучыць зоркі сваёй ідэнтычнасці (з трох прамянёў) у розных сетках. Якія промяні дэманструюцца ў TikTok, якія ў „Фэйсбуку", а якія ў „Інстаграм"? Ад чаго гэта залежыць?

**Аўтар:** Алена Палейка (адаптацыя практыкавання па правах чалавека „Хто я такі" з дапаможніка „Компас" у апрацоўцы М. Рафальскай).

# ВОЎК І СЯМЁРА КАЗЛЯНЯТ

**Метады:** навучальная гульня, дыскусія

**#медыя:** #роля медыя;
#уплыў медыя на асобу і грамадства;
#сацыяльныя сеткі

**Час:** 25 хвілін

**Прадмет:** Выхаваўчы занятак

**Узрост:** Дзеці, падлеткі, дарослыя

**Тэма:** Маніпуляцыі, бяспека ў інтэрнэце

**Падрыхтоўка:** Паперкі для лёсавання: 7 „казлянят", астатнія напалову „козы", напалову „ваўкі"

**Тулкіт:**

**Мэта (ідэя):** Кожны ўдзельнік атрымлівае ролю героя казкі і праз гульню набывае асновы медыя-інфармацыйных кампетэнцый: веды пра маніпуляцыі і сродкі ўплыву на людзей, навыкі праверкі інфармацыі і інфармацыйнай бяспекі, уменні супрацьстаяць маніпулятыўным прыёмам. Практыкаванне развівае крытычнае мысленне, уменні рабіць адказны выбар, прымаць рашэнні, можа праводзіцца як у пачатковых класах, так і для дарослай аўдыторыі.

**Этапы:** Апісанне практыкавання

**Гульня:** Дзеці некалькі хвілін гуляюць у ролевую гульню „Воўк і сямёра казлянят".

Умовы гульні: Усе вучні выцягваюць паперкі са сваёй роляй: 7 „казлянят", астатнія напалову „козы", напалову „ваўкі". Калі клас даволі вялікі, можна прымяніць тэхніку „акварыум", калі частка вучняў становяцца назіральнікамі і атрымоўваюць заданне запісаць усе заўважаныя спосабы ўплыву ці маніпуляцыі. Усе, акрамя „казлянят" не агучваюць свае ролі.

„Казляняты" збіраюцца ў адным месцы, а да іх па чарзе грукаюцца

астатнія. Мэта „ваўка" — прыкінуцца „казою" і патрапіць да казлянят, каб іх з'есці. „Каза" павінна пераканаць „казлянят" „адчыніць дзверы", каб іх пакарміць. „Казляняты" могуць задаваць пытанні, каб зразумець, хто да іх пагрукаўся" — „воўк"" ці „"каза". Калі яны ўпускаюць „ваўка", то адно „казлянятка" выходзіць з гульні („воўк" яго з'ядае). Калі не пускаюць „казу", то адно „казлянятка" „памірае з голаду". Калі ўпускаюць „казу" — „каза" застаецца разам з „казлянятамі" і папаўняе іх каманду.

Праз некаторы час настаўнік гульню спыняе і дзеці пераходзяць да яе абмеркавання.

**Рэфлексія:** Пытанні для абмеркавання могуць быць рознымі ў залежнасці ад узросту вучняў і мэты заняткаў.

Калі мэта — навучыць бяспецы ў інтэрнэце малодшых школьнікаў, прапануюцца наступныя пытанні:

Ці лёгка распазнаць, калі чалавек хлусіць, а калі кажа праўду, калі ты яго не ведаеш? Што рабіць, калі прапановы ад невядомых прыходзяць на электронную пошту, у чат, у сацыяльную сетку ці калі нехта звоніць з незнаёмага нумара? Ці заўсёды „ваўкі" выглядаюць „ваўкамі" ў інтэрнэце? Якой інфармацыі не павінна быць у адкрытым доступе?..

Пытанні для больш старэйшых дзяцей:

Пытанні „ваўкам": — Якія сродкі маніпуляцыі вы выкарыстал? Ці сустракалі вы падобныя сродкі ў СМІ, рэкламе?

Пытанні „казлянятам": — Як можна было праверыць інфармацыю? Якія крытэрыі вы выкарыстоўвалі, каб прыняць рашэнне? Якія пытанні былі найбольш эфектыўнымі? Ці лёгка было прыняць рашэнне? Ці можна назваць ваша рашэнне адказным? Чаму не пусцілі „казу", хаця яна гаварыла чыстую праўду?

Пытанні „козам": — Ці лёгка пераканаць аўдыторыю, калі вы ведаеце, што праўда на вашым баку? Што б вы памянялі ў тактыцы пераканання?

Пытанні да ўсіх: — Што вы адчувалі? Што найбольш выклікала давер? Чаму мы давяраем аднаму чалавеку ці СМІ, але не давяраем іншаму? Што трэба рабіць, каб нам давяралі?

Высновы.

Настаўнік дапамагае вызначыць параметры, якія выклікаюць давер ці недавер у людзей. Падводзіць да фармулявання правіл крытычнага стаўлення да ўсёй інфармацыі, якая паступае праз інтэрнэт або з іншых незнаёмых крыніц.

**Дамашняе заданне:** Праверыць свае сацыяльныя сеткі і выдаліць інфармацыю, якая можа быць небяспечнай, г.зн. якой могуць скарыстацца „ваўкі".

**Аўтар:** Тамара Мацкевіч. Адаптацыя практыкавання з кнігі:Практична медіаосвіта: авторські уроки. Збірка / Ред.-упор. В. Ф. Іванов, О. В. Волошенюк — Київ: Академія української преси, Центр вільної преси, 2013. — 447 с.

# ЗАПЫТАЙСЯ НА РОДНАЙ МОВЕ Ў GOOGLE

**Метады:** праца ў групах, дыскусія

**#медыя:** #пошук інфармацыі;

#дэкадаванне медыятэкстаў;

#мова медыя

**Час:** 15 хвілін

**Прадмет:** Беларуская мова

**Узрост:** Дзеці, падлеткі

**Тэма:** Дзень роднай мовы

**Падрыхтоўка:** Выхад у інтэрнэт, экран і праектар для дэманстрацыі

**Тулкіт:**

**Мэта (ідэя):** Вучні параўнаюць розныя вынікі аднолькавага запыту ў Google на трох розных мовах (беларускай, польскай, англійскай ці іншай) і зразумеюць, што інтэрнэт для карыстальніка кожнай мовы „розны".

**Этапы:** Апісанне практыкавання

**Праца з вынікамі пошуку па карцінках:** Настаўнік з вучнямі знаходзяць выявы, якія паказвае пошукавік google пры запытах „Дзень роднай мовы" на беларускай, польскай і англійскай мовах. Звяртаецца ўвага на тое, што пры кожным запыце ў сеціве прапануецца розная інфармацыя.






Вучні абмяркоўваюць і прыходзяць да высновы, што мова запыту мае значэнне, а інтэрнэт для карыстальніка кожнай мовы „розны”.

**Абмеркаванне беларускіх плакатаў:** Настаўнік прапануе абмеркаваць беларускія плакаты да гэтага свята, звяртае ўвагу на іх колеравую гаму.

Пытанні для абмеркавання ў групах:

- Якія два колеры найчасцей выкарыстоўваюцца ў беларускіх плакатах і паштоўках да Дня роднай мовы? (Белы, чырвоны.)
- Як вы лічыце, чаму менавіта гэтыя колеры галоўныя на беларускіх плакатах? (Гэта нацыянальныя колеры.)
- Ці можам мы вызначыць нацыянальныя колеры ў рускіх і англамоўных плакатах? (Не, там выкарыстаны вельмі розныя колеры.)
- Чаму так? (Англійскую і рускую мову ў гэтых плакатах выкарыстоўваюць людзі розных нацыянальнасцей.)
- Якія агульнавядомыя сімвалы Беларусі мы бачым на гэтых выявах? (Васількі.)
- Якую літару і чаму мы можам знайсці на многіх выявах? (Ў, яна ўнікальная, наша, беларуская).
- Якія яшчэ адметныя выявы, якія паказваюць, што плакат (паштоўка) прысвечаны менавіта беларускай мове, мы бачым? (Нацыянальны арнамент.)

**Стварэнне сваёй паштоўкі:** Праца ў групах. Вучні ствараюць сваю паштоўку да Дня роднай мовы. Для яе аздаблення яны павінны выкарыстаць тры колеры і ўжыць адзін з сімвалаў Беларусі.

**Парады настаўніку:** Практыкаванне можна выканаць перад Днём роднай мовы ці неўзабаве пасля яго. Пры адсутнасці доступу да інтэрнэту неабходныя выявы можна падрыхтаваць загадзя. Можна таксама прапанаваць вучням параўнаць, што напісана ў вікіпедыі пра адну і тую ж падзею, свята, асобу на розных мовах і адказаць на пытанне: Ці можа лічыцца вікіпедыя надзейнай крыніцай?

**Аўтар:** Лера Сом

# Я МЯРКУЮ, ГЭТА ФАКТ!

**Метады:** індывідуальная праца, дыскусія

**#медыя:** #факты і меркаванні

**Час:** 15 хвілін

**Прадмет:** Беларуская мова, літаратура

**Узрост:** Дзеці, падлеткі

**Тэма:** Сачыненне-апісанне майго горада (вёскі)

**Падрыхтоўка:** Дома напісаць 3-5 сказаў пра свой горад (вёску)

**Тулкіт:**

**Мэта (ідэя):** Вучні змогуць адрозніць факты ад меркаванняў у вучэбным тэксце і стварыць уласныя.

**Этапы:** Апісанне практыкавання

**Актуалізацыя ведаў вучняў (праверка хатняга задання):** На ўрок вучням задаецца спецыяльнае дамашняе заданне: напісаць 3-5 сказаў на вызначаную тэму. Пры абмеркаванні настаўнік просіць вызначыць, ці вучні запісалі факты і меркаванні. Нагадвае, што фактам можа лічыцца выказванне, адносна якога існуюць агульнапрынятыя спосабы вызначэння яго праўдзівасці або фальшывасці. Меркаванне — сцвярджэнне, якое хтосьці лічыць праўдзівым або праўдападобным, але для якога не існуюць агульнапрынятыя спосабы ўсталявання праўдзівасці або фальшывасці. Настаўнік тлумачыць пры неабходнасці, што „Полацк упершыню згадваецца ў летапісах у 862 годзе” — факт, „Полацк прыгожы горад” — меркаванне.

**Замацаванне разумення адрозненняў фактаў ад меркаванняў:** Настаўнік прапануе вучням праверыць разуменне адрозненняў фактаў ад меркаванняў па падрыхтаваных выказваннях:

- Першым полацкім князем быў Рагвалод. (Ф)
- Рагнеда была вельмі прыгожая. (М)
- Еўфрасіння Полацкая была ўнучкай Усяслава Чарадзея. (Ф)
- Сафійскі сабор лепей выглядае, калі глядзець на яго з другога берага Дзвіны. (М)

- У студзені 1964 г. касцёл Святога Стэфана і частка Полацкага езуіцкага калегіума былі ўзарваны савецкай уладай. (Ф)
- Добра, што ў Багаяўленскім саборы болей няма карціннай галерэі. (М)

Настаўнік звяртае ўвагу вучняў на тое, што пры стварэнні навуковага апісання меркаванні дапускаюцца толькі ў выглядзе навуковых гіпотэз, а пры стварэнні мастацкага тэксту ўласнае меркаванне ці не найбольш каштоўны складнік.

**Падрыхтоўка да сачынення-апісання:** Вучні пры абмеркаванні плана сачынення вызначаюць, што ў іх сачыненні ў розных частках могуць быць скарыстаны і факты, і меркаванні:

1. Уводзіны. Агульнае ўражанне (2-4 сказы, М).
2. Асноўная частка. Пералік асобных прымет (5-10 сказаў). Асноўная частка павінна ўтрымліваць 3 абзацы: у першым падаюцца факты з гісторыі свайго горада ці мястэчка (Ф), другі апісвае адзін з помнікаў ці цікавых мясцін (Ф і М), трэці расказвае пра вуліцу, на якой ты жывеш (Ф і М).
3. Агульная ацэнка (2-3 сказы, М).

У крытэрыі ацэнкі сачынення варта ўключыць пункт: „Не забывай, што ў сачыненні неабходна апісаць тваё асабістае бачанне роднага горада". Ужывай пры выказванні меркаванняў такія канструкцыі, як „мне здаецца", „я мяркую", „на маю думку".

**Рэфлексія:** Настаўнік прапануе, каб вучні адказалі на пытанне: — Навошта нам трэба ўмець адрозніваць факты ад меркаванняў?

Калі ёсць час, старэйшым вучням можна даць газетны артыкул з навіной і прапанаваць падкрэсліць факты прамой лініяй, а меркаванні — хвалістай. Пры гэтым патлумачыць, што давяраць мы павінны толькі фактам. Чым больш меркаванняў — тым менш якасная навіна. Меркаванні дапускаюцца ў публіцыстычных артыкулах, а не ў навінных, там аўтары апелююць да эмоцый, і справа чытача — пагаджацца з меркаваннем аўтара ці не.

**Парады настаўніку:** Практыкаванне можна праводзіць перад любым сачыненнем, перад вывучэннем біяграфіі пісьменніка, нават параграф падручніка гісторыі варты разбору, каб вучні ўпэўніліся, што ён змяшчае гістарычныя факты, а не домыслы яго складальнікаў.

**Аўтар:** Лера Сом

# АД БАТЛЕЙКІ ДА ПАЛАНЭЗА

**Метады:** прагляд роліка, праца ў групах, дыскусія

**#медыя:** #аналіз медыя,

#мова медыя

**Час:** 45 хвілін

**Прадмет:** Гісторыя

**Узрост:** Дзеці, падлеткі

**Тэма:** Гісторыя беларускага тэатра

**Падрыхтоўка:** Абсталяванне для дэманстрацыі роліка

**Тулкіт:**

**Мэта (ідэя):** Вучні ўсведамляюць, што гістарычныя падзеі могуць уплываць на мастацтва: падзел Рэчы Паспалітай (поўная назва Рэспубліка абодвух народаў) пазбавіў беларускія землі сваёй дзяржаўнасці і незалежнасці, што прывяло да разбурэння тэатральных школ і адлюстравалася ў мастацтве. Назва паланэза „Развітанне з Радзімай" адлюстроўвае пачуцці беларусаў у той час: гэта трывожны і сумны твор, аднак не пазбаўлены надзеі.

**Этапы:** Апісанне практыкавання

**Матывацыйны:** Настаўнік прапануе дзецям паслухаць паланэз Агінскага.

— Хто чуў гэтую музыку? Якія пачуцці яна ў вас выклікае? Як бы вы маглі назваць гэты твор?

- Настаўнік выпадкова вызывае некалькіх вучняў.
- Калі вучні не агучылі, то настаўнік паведамляе назву твора і кампазітара і задае ключавое пытанне: Чаму твор называецца «Развітанне з Радзімай»?

Вучні выказваюць здагадкі. Настаўнік прапануе адказаць на гэта пытанне напрыканцы ўрока.

**Вызначэнне мэты:** Настаўнік прапануе мэту занятку.

Пакуль мы дабярэмся да адказу на галоўнае пытанне, кожны з вас зможа:

- расказаць аб тым, як узнік і развіваўся народны лялечны тэатр — батлейка;
- расказаць аб тым, як тэатральнае мастацтва стала прафесійным;
- назваць не менш за два гарады, дзе ў XVIII стагоддзі размяшчаліся знакамітыя тэатры;
- назваць не менш за тры асобы, якія пакінулі значны след у развіцці культуры Беларусі.

**Прагляд навучальнага роліка:** Каб адказаць на ключавое пытанне, адправімся ў падарожжа і паглядзім ролік.

https://www.youtube.com/watch?v=pzuFPOwNJkl&list=PLHUxJHwmp-BTMLZnhlrwszuu4lz6wWLHcF&index=9

УВАГА! Важна даць вучням мэтанакіраванае заданне на прагляд роліка, каб дзеці ўважліва яго глядзелі.

Перад праглядам настаўнік раздае загадзя падрыхтаваныя пытанні да роліка: _

Падчас прагляду будзеце працаваць у парах і паспрабуеце адказаць на тры пытанні:

1. Як называўся першы народны лялечны тэатр?
2. У якіх гарадах у XVIII стагоддзі размяшчаліся знакамітыя тэатры?
3. Хто з вядомых людзей Беларусі пакінуў значны след у развіцці культуры?

Пасля прагляду, абмяркуйце ў парах адказы на пытанні і праз дзве хвіліны я выпадковым чынам вызаву некалькіх вучняў для адказу.

**Праца ў групах:** Настаўнік арганізуе працу ў групах з рознымі заданнямі:

**1-я група:** Напішыце сцэнарый невялічкай п'есы для батлеечнага тэатра на тэму школы. Вызначыце ці намалюйце галоўных герояў, размяркуйце ролі, напішыце дыялогі, разыграйце п'есу перад аднакласнікамі.

**2-я група:** Падрыхтуйце афішу (ці рэкламу) тэатра Уршулі Радзівіл у Нясвіжы

**3-я група:** Правядзіце даследаванне, чаму Слонімскі Дом оперы параўноўвалі з Венецыяй, выкарыстаўшы дадатковыя інфармацыйныя

матэрыялы (падручнік, прагляд роліка, энцыклапедыя, адаптаваныя для дзяцей тэксты з інтэрнэту). Выступіце перад аднакласнікамі з невялічкім дакладам.

**4-я група:** Падрыхтуйце рухі пад паланэз Агінскага і пакажыце ўсяму класу. Навучыце настаўніка і аднакласнікаў рухацца пад паланэз.

Прэзентацыя групавой работы. Сама і ўзаемаацэнка.

Настаўнік арганізуе ўзаемаацэнку выканання задання: агучвае пытанні (заданні), а дзеці сігналізуюць святлафорам, ці быў адказ на гэта пытанне.

**Рэфлексія:** Настаўнік акцэнтуе ўвагу класа на ключавым пытанні: — Чаму Агінскі назваў свой музычны твор «Развітанне з Радзімай»?

Пры неабходнасці настаўнік дапамагае сфармуляваць выснову, што мастацтва развіваецца ў сваёй краіне, рэагуе на значныя падзеі і прыходзіць у заняпад, калі краіна губляе незалежнасць, як у выпадку з падзелам Рэчы Паспалітай абодвух народаў.

Настаўнік звяртае ўвагу на мэту ўрока і прапануе прагаласаваць святлафорам тым, хто дасягнуў мэты ўрока па 4 пунктах — зялёны, 2-3 — жоўты, 1-0 чырвоны:

- магу расказаць аб тым, як узнік і развіваўся народны лялечны тэатр — батлейка;
- магу расказаць аб тым, як тэатральнае мастацтва стала прафесійным;
- магу назваць не менш за два гарады, дзе ў XVIII стагоддзі размяшчаліся знакамітыя тэатры;
- магу назваць не менш за тры асобы, якія пакінулі значны след у развіцці культуры Беларусі.

Урок можна завяршыць танцам-паланэзам Агінскага (прэзентацыя 4-й групы).

**Парады настаўніку:** Цікавыя факты: Па паходжанні князі Агінскія не былі палякамі. Іх продкамі гісторыкі называюць заходніх русінаў (беларусы, якія прынялі каталіцызм). Міхал Клеафас Агінскі справядліва ганарыўся сваімі продкамі: усе яны ў Вялікім Княстве Літоўскім, які ўваходзіў у Рэч Паспалітую, займалі высокія пасады. Яго прадзед быў ваяводам у Віцебску, а дзед і бацька ўзначальвалі Трокскае ваяводства. Дзядзька будучага кампазітара быў ваяводам у Вільні і вялікім гетманам літоўскім. А свой знакаміты твор „Развітанне з Радзімай" кампазітар напісаў у сваёй сядзібе ў Залессі на Смаргоншчыне.

**Аўтар:** Святлана Сяргеева

# „ГАВАРКІЯ” ЭМАДЗІ

**Метады:** праца ў групах

**#медыя:** #мова медыя

**Час:** 20 хвілін

**Прадмет:** Мова, літаратура, выхаваўчы занятак

**Клас:** 3-4

**Тэма:** Мова медыя

**Падрыхтоўка:** Набор эмадзі ці тэлефон або планшэт

**Тулкіт:**

**Мэта:** Вучні змогуць актуалізаваць, сістэматызаваць і праверыць на практыцы ўменні размаўляць мовай эмадзі, перавадзіць яе ў словы і наадварот.

**Этапы:** Апісанне практыкавання

**Матывацыйны:** Настаўнік дэманструе закадаваныя радкі Максіма Багдановіча і прапануе здагадацца, які вершы напісаны мовай эмадзі.



1. Усе мы разам ляцім да зор...
2. Народ, беларускі народ, Ты цёмны, сляпы быццам крот...
3. Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...
4. Здароў, марозны звонкі вечар...
5. Зорка Вернера ўзышла над Зямлёю...
6. Пагоня. Толькі ў сэрцы трывожным пачую...
7. Ад родных ніў, ад роднай хаты...

**Пастаноўка задачы, праца ў групах:** Настаўнік прапануе вучням падзяліцца на групы (пары).

Кожная група (пара) атрымлівае заданне: закадаваць фразу (вядомую прымаўку, радок верша, карысную параду, нешта, звязанае з тэмай урока...) з дапамогай смайлікаў ці піктаграм. Для запісу фразы можна скарыстацца сваімі мабільнымі тэлефонамі ці раздрукоўкамі з выявамі эмадзі.

**Праца ў групах:**

1 этап. Кожная група абмяркоўвае тэкст і кадуе яго з дапамогай смайлікаў, эмадзі, піктаграм. На выкананне працы даецца 8 хвілін.

2 этап. Групы абменьваюцца закадаванымі пасланнямі і расшыфроўваюць іх змест.

3 этап. Абмеркаванне зместу шыфровак.

**Падвядзенне вынікаў. Рэфлексія:** Настаўнік пытаецца ў вучняў: — Ці было лёгка закадаваць фразу? Ці лёгка было здагадацца і прачытаць змест, напісаны з дапамогай выяў? Чаму?

Вучні робяць выснову, што мова медыя можа быць рознай: літары, малюнкі, музыка, колеры і г.д. Кожны від медыя мае сваю мову, якую трэба ведаць, каб правільна прачытаць атрыманую інфармацыю.

**Парады настаўніку:** Настаўнік можа кожнай групе вучняў прапанаваць свае фразы для кадавання, а можа прапанаваць гэта зрабіць самім вучням. Але ў гэтым выпадку трэба даць вучням устаноўку на стварэнне простай фразы, каб заданні былі выкананы хутка і якасна.

**Аўтар:** Святлана Локіс

# ГЛЯДЗІ Ў КОРАНЬ! (АДНАКАРАНЁВЫЯ СЛОВЫ)

**Метады:** праца ў групах

**#медыя:** #рэклама;

#уплыў медыя на асобу

**Час:** 15 хвілін

**Прадмет:** Беларуская мова

**Узрост:** 3-4 клас

**Тэма:** Корань слова. Аднакаранёвыя словы.

**Падрыхтоўка:** Абсталяванне для дэманстрацыі роліка і плаката

**Тулкіт:**

**Мэта:** Вучні глядзяць рэкламныя ролікі, у якіх шмат разоў паўтараюцца сугучныя словы, потым аналізуюць, ці яны аднакаранёвыя.

**Этапы:** Апісанне практыкавання

**Аналіз рэкламы:** На занятку беларускай мовы пры вывучэнні тэмы „Корань слова. Аднакаранёвыя словы" вучні глядзяць рэкламу квасу „Хатні":

https://youtu.be/7Vi7enVl7kE

У роліку пад відэашэраг сялянскага жыцця гучыць тэкст:

— *Эх, смаката!*

— *Смачненька!*

— *Як смачна!*

— *Можна па-рознаму апісаць смак квасу „Хатні". Але чым казаць, лепш пасмакаваць! Квас „Хатні". Смачна піць!*

Вучням даецца заданне выпісаць аднакаранёвыя словы, вызначыць у іх корань. Вучні ўспрымаюць заданне як гульню, выконваюць яго з цікавасцю, з лёгкасцю, таму што медыятэкст яркі, вобразны, запамінальны.

На гэтым жа занятку на этапе замацавання ведаў настаўнік паказвае рэкламны плакат «Час пачаставацца „Мівінай"».




(крыніца: https://vk.com/mivinabel )

Вучні вызначаюць, што словы „час" і „пачаставацца", хоць і маюць аднолькавую частку „час", нельга аднесці да аднакаранёвых, паколькі яны не аб'яднаны агульным лексічным значэннем.

**Падвядзенне вынікаў. Рэфлексія:** Вучні адказваюць на пытанні:

Якім адным словам вы можаце назваць ролік і плакат? (Рэклама.).

Для чаго ствараюць рэкламу? (Каб прадаць тавар ці паслугі.)

Навошта выкарыстоўваюць у рэкламе сугучныя і аднакаранёвыя словы? (Каб прыцягнуць увагу і каб тавар асацыяваўся з нечым прыемным і запамінальным.)

Ці заўсёды ў рэкламе мы бачым праўдзівую інфармацыю і чаму?

**Парады настаўніку:** Рэкламныя ролікі дапамаглі арганізаваць адукацыйны працэс не толькі эфектна, а, галоўнае, эфектыўна. Рэклама створана прафесіяналамі, каб прыцягнуць увагу. Значыць, і камерцыйная рэклама можа вырашаць адукацыйныя задачы — зрабіць запамінальнымі веды, важна толькі ўмець яе прымяніць.

**Аўтар:** Алена Саўчанка

# Беласнежка і Гномы



Сцэнар на аснове казкі братоў Грым. Ігар Казакоў, музыка Аляксандр Літвіноўскі, аўтары песняў Рыгор Гольдман, Аляксандра Даньшова, пераклад на беларускую мову Аліна Ваўранюк.

Спектакль "Беласнежка" знойдзеце тут: https://www.youtube.com/watch?v=3Ax_gLLMCXI

## Сцэна 1

**Галоўны** Цікава... Куды мы папалі?

**Цынік** Хто гэта, людзі?

**Забівака** Так. Людзі.

**Парадачны** Цікава, яны нас бачаць?

**Задавака** Не, не бачаць! Нас бачаць толькі добрыя людзі... А гэтыя, не бачаць.

Паглядзі. О-о-о-о-й! Бачаць!

**Нясмелы** Стаяць! Вы забылі, чаму мы столькі гадоў хаваемся пад зямлёй? Вы забылі, колькі кепскага зрабілі нам...

**Парадачны** Пачакай! Калі яны нас бачаць, гэта значыць тут добрыя людзі...

**Цынік** Нядобрыя!

**Чуллівы** Добрыя!

Нядобрыя!

Добрыя!

**Разумны** Можа, пазнаёмімся з імі...

**Забівака** Зараз пазнаёмлюся...

**Чуллівы** Пачакай...

**Забівака** Чаго чакаць? Я ім зараз...

| | |
|---|---|
| **Чуллівы** | Ну пачакай! Нават калі тут і нядобрыя людзі... мы раскажам ім казку, і яны адразу памяняюцца. |
| **Забівака** | Ну добра. |
| **Чуллівы** | Скажыце, вы казкі любіце...? |
| | — Ну вось... я ж гаварыў. |
| **Задавака** | А ведаеце, хто найлепш з усіх расказвае казкі? |
| **Цынік** | Вядома, мы!!! |
| | — Не верыце? Глядзіце! |

***Песня Гномаў***

*Няхай няўдалы ростам Гном, ў абхваце не шырокі,*
*Але любы ў дзвярах праём не коле яго ў бокі.*
*І ён шчаслівы па жыцці, на лбе гуза не знайсці, ані-ні-ні-ні-ні.*

*А той, хто выцягнуўся ўверх, пад метар дзевяноста,*
*З якой бы не быў ён душой, а жыць яму не проста*
*Не зберажэ яго судзьба ад траўматызму лба-ба-ба-ба-ба.*

*І гэтак цяжка па жыцці, бо з вышынёй такою*
*Табе так лёгка аб касяк ударыць галавою*
*Таму з падзякую судзьбе спяваем мы табе-бе-бе-бе-бе.*

## Сцэна 2

| | |
|---|---|
| **Задавака** | Гномы самыя добрыя расказчыкі, самыя добрыя спевакі, самыя добрыя... |
| **Галоўны** | І самыя сціплыя! |
| **Парадачны** | А ведаеце, якія казкі нам падабаюцца? |
| **Чуллівы** | Любыя... |
| **Забівака** | Галоўнае... каб яны былі пра Гномаў! |
| **Цынік** | Але, мы расказваць не будзем... нават не прасіце. |
| **Усе** | Не, не! Не прасіце, не будзем, не будзем... |
| | — Ну, хіба што вы вельмі просіце... |
| **Усе** | Добра, раскажам!!! |
| | А якую казку будзем расказваць? |

**Цынік** Давайце гэту, дзе пальцы адрэзваюць, дзе вочы выкалупліваюць...

**Чуллівы** Не, не трэба! Трэба, нешта такое далікатнае...

**Кемлівы** Снежнае...

**Недаростак** Беласнежнае...

**Задавака** Дакладна, Беласнежку!

**Цынік** Я ж гавару... дзе сэрца выразаюць, дзе вочы...

**Мудры Гном** Прыгожую казку пра нас напісалі браты Грым.

— Вось, яе мы і раскажам.

— Дык што? Давайце!

**Недаростак** Цур, паказваць буду я!

**Задавака** Т ы яшчэ не дарос, расказваць буду я!

**Недаростак** А ты перарос!

— Не, я....

**Забівака** Зараз я ім ...

**Галоўны Гном** Ціха! Годзе ўжо. Давайце расказваць Усе разам.

**Мудры Гном** Жыла была дзяўчынка. Яна была...

**Цынік** Тоўстая...

**Чуллівы** Яна была прыгожая!

**Задавака** Так. Як я!

**Парадачны** Як ты!?

**Цынік** Не, яна была ўся як я... і ў яе быў вось такі доўгі нос!

**Чуллівы** Ды не! Яна была стройная і высокая...

**Цынік** Так. Ну як я.

**Забівака** Любіла біцца... Зараз як дам...

**Мудры Гном** Вушы ў яе былі... вось такія.

**Мудры Гном** Перастаньце! Так не атрымаецца!

Расказваць павінен нехта адзін!

**Гномы** Я!

**Галоўны Гном** Ну добра... я пачну... а вы паможаце.

## Сцэна 3

**Галоўны Гном** Даўным-даўно на адным узгорку стаяў замак. У якім жылі кароль і Каралева. Зімовым дзяньком, калі снег валіў лапінамі, сядзела Каралева адна каля акна. Шыла і на снег глядзела.

***Калыханка Каралевы***

*Паўночны снег няспешна йдзе,*
*Павольны яго рух,*
*Вядома ўжо, што ўсё-такі*
*Зямлю пакрые пух.*
*Калі ўжо запаволіў рух,*
*І асцярожным быў.*
*Калі усю зямлю прыбраў*
*І нас не разбудзіў.*

**Галоўны Гном** Шыла яна шыла... і ўкалолася іголкай у палец да крыві.

**Каралева** Ах!

**Галоўны Гном** І яе кроў капнула на снег. І падумала Каралева пра сябе.

**Каралева** Ах, калі б мне нарадзілася дзіцятка, белае...

**Гном** Як снег!

**Каралева** Румянае...

**Гном** Як кроў.

**Каралева** І чарнявае...

**Гном** Як чорнае дрэва!

**Гном** І неўзабаве яе жаданне споўнілася і нарадзілася ёй...

**Каралева** Дачушка!

**Гномы** І ўлічваючы белы колер, назвалі яе...

**Каралева** Беласнежка.

**Гномы** Беласнежка.

**Разумны Гном** І як толькі нарадзілася дачушка, Каралева-маці... і памерла.

**Гномы** Памерла?

**Разумны Гном** Так, памерла. А Кароль, гараваў... гараваў... гараваў... гараваў. Прайшоў год... кароль ажаніўся... з другой.

## Сцэна 4

**Разумны Гном** Ох. Гэтая другая яго жонка была...

**Мачаха** Прыгажуня!!! Але напышлівая і фанабэрыстая...

**Разумны Гном** І ніяк не магла стрываць, што нехта або нешта можа быць прыгажэй яе.

**Мачаха** У яе было такое чарадзейнае люстэрка,
перад якім яна любіла ставаць, любавацца сабою і гаварыла:
«Люстэрка, люстэрка, ты хутка скажы,
Хто самы прыгожы, хто самы круты?»
І люстэрка ёй адказвала:
«Ты, Каралева, самая, самая».
І яна адыходзіла ад люстэрка задаволеная-задаволеная
і ведала, што люстэрка не схлусіць ёй.

***Песня Мачахі***

*Цудоўны вобраз бачу я,*
*Ты люстра сябра мне.*
*У свеце больш такой няма, (цяпер)*
*Бялейшай за мяне.*
*З усіх найпрыгажэйшая,*
*Другой такой няма, (толькі я)*
*І кожны добра ведае,*
*Што зорка гэта я.*

## Сцэна 5

| | |
|---|---|
| **Чуллівы Гном** | Эй! А Беласнежка? |
| **Галоўны Гном** | Падрастала, прыгажэла... |
| **Чуллівы Гном** | І з кожным днём яна прыгажэла і прыгажэла... |
| **Гном** | І неўзабаве, яна была... |
| **Усе разам** | Прыгожая, як ясны дзень! |

***Песня Беласнежкі***

*Учора я яшчэ была маленькай,*
*А вось цяпер мяняюся з вясною,*
*Як быццам, апынулася паненкай,*
*Я адчуваю гэта ўсёй душою.*
*Мне сніўся сон: што прынц мяне наведаў,*
*На беласнежным коніку прымчаўся.*

*Ён дараваў мне кветкі, шакаладкі.*
*І ён маўчаў і толькі ўсміхаўся.*
*А потым — мы з ім доўга танцавалі,*
*І гаварылі аба ўсім на свеце,*
*І мы пра ўсё на свеце забывалі,*
*Кружылі ў непаўторным менуэце...*
*Вось-вось на небе сонца загарыцца,*
*І знікне ноч, а з ёю нашы мары.*
*Шкада, што гэты сон не паўтарыцца,*
*Дапамагчы нам могуць толькі чары.*

**Чуллівы Гном** Такая прыгожая...
**Парадачны Гном** Небарака.
**Чуллівы Гном** Што было далей?
**Галоўны Гном** І так здарылася, што побач праязджаў Прынц...
**Гномы** Прынц!?
**Галоўны Гном** Так, Прынц! З суседняга каралеўства.
**Беласнежка** Прынц?!
**Парадачны** Не праязджаў!
**Чуллівы Гном** Праязджаў.
— Не праязджаў!
— Праязджаў.
— Не праязджаў!
— Праязджаў.
— Праязджаў.

**Прынц** Стаяць! Куды вы? Пачакайце! Што гэта было...? Прывід? Ці самая прыгожая дзяўчына на свеце... Як яе завуць?
**Гномы** Беласнежка.
**Прынц** Беласнежка... якое прыгожае імя. Я ажанюся з табою. Няхай мне прыйдзецца прайсці цэлы свет, я знайду яе. Беласнежка...

## Сцэна 6

**Мачаха** Аднойчы... Каралева пабачыла Беласнежку ў сваім акне.

Сэрца яе затрымцела, прадчуваючы нешта непрыгожае...

І тады Каралева кінулася да люстэрка і спытала:

«Люстэрка, люстэрка, ты хутка скажы,
Хто самы прыгожы, хто самы круты?»

Люстэрка:

«Ты, Каралева, прыгожая дама,
Але ж Беласнежка самая, самая».

**Гномы** Спалохалася Каралева, пажаўцела, пазелянела ад зайздрасці.
— З таго часу, як, бывала, убачыць Беласнежку,
дык яе сэрца ад злосці гатовае было на часткі разарвацца.
— І зайздрасць з напышлівасцю, быццам пустазелле, пачалі
расці ў яе сэрцы, і разрастацца ўсё шырэй і шырэй...
— Так што на канец ні днём... ні ноччу не было ёй спакою.

**Мачаха** І вось пазвала яна аднойчы прыдворнага паляўнічага і сказала: «Выведзі гэту дзяўчынку ў лес, каб яна мне больш на вочы не пападала. Забі яе і ў доказ гэтага, што мой загад здзейснены, прынясі мне яе сэрца».

**Паляўнічы** І выканаў загад Паляўнічы... павёў дзяўчынку з палаца ў лес, і калі выцягнуў свой нож, каб прабіць нявіннае сэрца Беласнежкі...

**Беласнежка** Добры чалавек, не забівай мяне; я ўцяку ў дрымучы лес і ніколі ўжо не вярнуся дадому, у палац.

**Паляўнічы** Пашкадаваў Паляўнічы прыгожую дзяўчынку і сказаў: «Ну і ўцякай. Бог з табою, бедная дзяўчынка!» — і быццам камень з сэрца зваліўся, калі ён пашкадаваў дзіцятка.

**Гном** А што з загадам Мачахі?!

**Паляўнічы** Як раз у той час малады аленьчык выскачыў з кустоў; Паляўнічы забіў яго, выняў з яго лёгкія і пячонку і прынёс іх каралеве ў доказ таго, што яе загад выканаў.

**Беласнежка** І вось апынулася нябога ў дрымучым лесе адна аднюсенькая, і стала ёй так страшна, што кожны лісток на дрэве палохаў яе. Не ведала яна, што ёй рабіць і як ёй быць. І кінулася бегчы. І бегла па вострых камянях і па калючых кустах.

**Гномы** І дзікія звяры прабягалі побач яе ўзад і ўперад... але не рабілі ёй нічога дрэннага.

**Беласнежка** Бегла яна, пакуль неслі яе... слабенькія ножанькі. Амаль да вечара; калі ўжо стамілася, убачыла маленькую хатку і ўвайшла

ў яе. У хатцы ўсё было маленькае. Пасярэдзіне хаткі стаяў столік, а на ім сем маленькіх талерачак, і на кожнай талерачцы па лыжачцы, а таксама сем ножыкаў і відэльчыкаў, і сем кубачкаў.

Беласнежка, якой вельмі хацелася і есці, і піць, пад'ела з кожнай талерачкі агародніны і хлеба і з кожнага кубачка выпіла. Пасля таго, стомленая пасля прабежкі, лягла, перахрысцілася і заснула.

## Сцэна 7

**Галоўны Гном** Калі зусім сцямнела, прыйшлі ў хатку яе гаспадары — Гномы.

**Першы** Хто сядзеў на маёй табурэтачцы?

**Другі** Хто еў з маёй талерачкі?

**Трэці** Хто адламаў кусочак майго хлябца?

**Чацвёрты** Хто еў маю агародніну?

**Пяты** Хто маім відэльцам еў?

**Шосты** Хто маім ножыкам рэзаў?"

**Сёмы** „Хто з майго кубачка піў?"

**Першы** Хто ў маёй пасцелі валяўся?

**Другі** І ў маёй, і ў маёй таксама нехта паляжаў!

**Трэці** Ах, Божа мой!

**Усе разам** Якая яна прыгожая!

— Як цябе завуць?

Беласнежка Мяне завуць Беласнежка.

**Галоўны Гном** Як ты патрапіла ў наш дом?

**Беласнежка** Тады яна ім расказала, што Мачаха загадала яе забіць, а Паляўнічы яе пашкадаваў — і яна бегла цэлы дзень, пакуль не наткнулася на іх хатку.

**Гномы** Не хочаш займацца нашай гаспадаркай?

— Прыбіраць, мыць, слаць пасцель, шыць і вязаць?

— І калі будзеш добра і дакладна ўсё гэта рабіць, можаш у нас застацца надоўга і ні ў чым не будзеш цярпець нястачу.

**Беласнежка** Калі мне дазволіце, з вялікай прыемнасцю!

**Беласнежка** Дом Гномаў яна трымала ў вялікім парадку; раніцай яны звычайна ішлі ў горы...

**Гномы** Беласнежка! Сцеражыся сваёй мачахі! Яна хутка даведаецца, дзе ты цяпер, тады не ўпускай жа нікога ў дом, апрача нас.

## Сцэна 8

**Гном-Кухар 1** А ў той час у замку...

**Гном-Кухар 2** Кухару загадалі пасаліць і зварыць аленевы лёгкія і пячонку...

**Мачаха** Ням, ням, ням...

**Гном-Кухар 1** Злая баба з'ела іх, думаючы, што гэта сэрца Беласнежкі. І яна ўпэўненая, што менавіта яна цяпер першая прыгажуня ва ўсім каралеўстве...

**Мачаха**

«Люстэрка, люстэрка, ты хутка скажы,
Хто самы прыгожы, хто самы круты?»
Люстэрка:
«Ты, Каралева, прыгожа сабой,
Але ж Беласнежка, што за гарой
У хаце ў Гномікаў добра жыве,
Яна, ты даруй, прыгажэй за цябе».

**Гном-Кухар 1** Каралева спалохалася; яна ведала, што люстэрка ёй няпраўды не скажа.

**Мачаха** Беласнежка павінна памерці! Нават калі б і мне з ёй прыйшлося паміраць!

**Гном-Кухар 2** І пачала яна думаць аб гэтым.

**Мачаха** Як!? Як!? Як знішчыць Беласнежку...?

***Песня мачахі***

*Эх, люстэрка, ты люстэрка,*
*Беласнежка ўсіх мілей.*
*Я прыдумаю такое,*
*Што не жыць на свеце ей.*
*Не хлусі мне, больш не трэба*
*Беласнежку я заб'ю.*

*Не пабачыць яна неба,*
*Падрыхтую ёй труну.*
*Раз два тры і ўсё гатова*
*Не пабачу больш яе.*
*Прападзе яе галова,*
*Хай на свеце не жыве.*

**Мачаха** Беласнежка павінна памерці.

**Мачаха** З выгляду яблык цудоўны, круглы, румяны. Кожны, глянуўшы на яго, схоча яго з'есці, а як толькі ўкусіць — памрэ.

**Чуллівы Гном** Злая Мачаха пераапранулася і пайшла ў дарогу, да хаткі сямі Гномаў.

## Сцэна 9

**Беласнежка** Не магу я нікога сюды ўпусціць, сем Гномікаў мне гэта забаранілі.

**Старуха** Куды ж мне ісці з маімі яблыкамі? Вазьмі вось адно, калі ласка, я табе падарую.

**Беласнежка** Не, не смею я нічога прыняць.

**Старуха** Можа ты баішся атруціцца? Румяную палавіну ты з'ясі, а другую я сама з'ем.

**Беласнежка** Беласнежцы вельмі хацелася скаштаваць гэты цудоўны яблык. Але як толькі яна ўкусіла кусочак...

**Мачаха** Так і ўпала мёртвая на зямлю. Вось табе і белая, як снег, і румяная, як кроў, і чорная, як чорнае дрэва!

«Ну, люстэрка, люстэрка, ты хутка скажы,
Хто самы прыгожы, хто самы круты?»
Люстэрка:
«Ты, Каралева, самая, самая».

## Сцэна 10

**Гномы** Гномы, вярнуўшыся вечарком дадому, знайшлі Беласнежку непрытомнай на падлозе.

**Гном** Яна выглядала спячай...

**Гном** Была як і раней...

**Гном** Белая, як снег...

**Гном** Румяная, як кроў....

**Гном** Чорная, як чорнае дрэва.

**Гномы** Не, мы не можам яе спусціць у цёмныя нетры зямлі.

***Плач Гномаў***

*Спіць дзяўчына вечным сном,*
*Сумным стаў вясёлы дом.*
*У нашай хатцы зноў бяда,*
*Беласнежку нам шкада.*

*Нават елкі і бярозкі*
*Праліваюць з намі слёзкі.*
*Жылі добра, сябравалі*
*І такога не чакалі.*

**Галоўны Гном** Яны селі ўсе вакол Беласнежкі, і аплаквалі роўна тры дні запар.

**Гном Цынік** Вось бачыце, да чаго можа давесці людская... зайздрасць!

**Гном** І ўсё?

**Галоўны Гном** Так, усё.

**Чуллівы Гном** А дзе ж... справядлівасць!? Казка, пра дабро і зло не можа так закончыцца...

— Павінен быць нейкі выхад...

— Які?!

— Ці ж няма магчымасці нешта памяняць...?

— Як!?

**Гном Задавака** А так! Здарылася так, што ў гэты лес заехаў той жа Прынц!

**Гномы** Прынц?

**Гном Задавака** Так! Прынц!!!

**Прынц** Ён... Пад'ехаў да хаткі Гномаў... задумаў пераначаваць у ёй. Ён пабачыў труну на гары і прыгажуню Беласнежку ў труне і сказаў Гномам: «Аддайце мне труну, а я вам за яго дам Усе, чаго вы захочаце».

**Гномы** Мы не аддамо! Мы не аддамо!

**Прынц** Дык падаруйце ж яе мне, я наглядзецца не магу на Беласнежку: здаецца, і жыццё мне без яе не мілае будзе!

**Гномы** Не аддамо! Не аддамо!

**Прынц** Падаруйце — і буду яе лічыць і цаніць як любімую сяброўку!

**Гномы** Не аддамо яе за ўсё золата на свеце.

***Песня Прынца***

*Якая ж злая насмешка*
*Над беднай маёю судзьбой*
*Ах, дзе ты, мая Беласнежка?*
*Калі я сустрэнусь з табой?!*

*Дзяўчаты і справа, і злева,*
*Але па душы мне адна!*
*І нават сама Каралева,*
*Мяне не цікавіць яна!*

*Я, быццам няшчасная пешка,*
*Якую адкінулі вы!..*
*О, дзе ты, мая Беласнежка?!..*
*Аддайце яе мне, сябры!*

*Мне сумна. Душа памірае,*
*Я думаю толькі аб ёй -*
*Маёй беласнежнай нявесце,*
*Любімай, каханай маёй!*

*Я, быццам няшчасная пешка,*
*Якую адкінулі вы!..*
*О, дзе ты, мая Беласнежка?!..*
*Аддайце яе мне, сябры!*

**Гномы** І... Засумавалі добрыя Гномы, пачуўшы такую сумную песню... і аддалі яму труну Беласнежкі.

**Гномы** Ну, што далей?

**Прынц** Каралевіч загадаў сваім слугам несці труну на плячах. Панеслі яе... панеслі... панеслі... неслі... неслі...

**Гномы** Ну, а далей што!!!??

**Прынц** Дык спатыкнуліся на нейкай галінцы... І ад гэтага страсення... выскачыў з горла Беласнежкі... кусок атручанага яблыка.

**Прынц** Адчыніла вочы Беласнежка, і паднялася жывая-жывусенькая.

**Беласнежка** Божа мой! Дзе ж я?

**Прынц** Каралевіч сказаў радасна... Ты ў мяне, у мяне! Ты мне мілейшая за ўсіх на свеце; паедзем са мною да замка бацькі — і будзь мне жонкаю.

**Беласнежка** Беласнежка згадзілася і паехала з ім.

## Сцэна 11

**Гномы** У палацы, рыхтавалі вяселле.
— На гэтае святкаванне запрасі...
— Гномаў?
— Гасцей.
— Была запрошаная і злая Мачаха Беласнежкі.
— Была.
— Не была...

**Мачаха** Была! Каб зацьміць усіх сваёй прыгажосцю...

**Гном Цынік** Злая баба, нафурфырылася на вяселле, стала перад люстэркам і сказала.

**Мачаха**

«Люстэрка, люстэрка, ты хутка скажы,
Хто самы прыгожы, хто самы круты?»
Але люстэрка ёй адказала:
«Ты, Каралева, прыгожая дама,
Але ж Маладая самая, самая».

**Гном Цынік** Мачаха падняла страшэнны крык...

**Гномы** Грымнулася на зямлю... і спусціла дух.

**Гномы** Беласнежка і Прынц пажаніліся, і на вяселле запрасілі...

**Гном** Гасцей?

**Беласнежка і Прынц** Гномаў!

**Гномы** І вяселле было шумнае і цудоўнае.

# ЗМЕСТ



**Рэдакцыйная калегія:** Аліна Ваўранюк, Яланта Грыгарук, Ян Карчэўскі

**Карэктура:** Віталь Луба
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі
**Рэдактар:** Мікола Ваўранюк

**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Koncept Białystok

Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji